# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 3 (621) ГОД XIII 21 СТУДЗЕНЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.





Зіма — вялікі белы сцяг
капітуляцыя прыроды,
і толькі жменька ржавага трысця
шуміць:
— пад лёдам цякуць воды.
не крывадушшуць толькі лес
і маскай не прыкрыў аблічча,
стаіць у сіненькай імгле
і дні зімы пацiху лічыць.
а дзень маленькі як шчанюк
туляецца пры пунях шэрых,
і ночы поўныя агню
у небе зорным
зубы шчэраць.
зіма — вялікі белы сцяг,
зямля замоўкла у палоне.
ці д'ябал мех з мукой расцяў
ці анёл свет прыкрыў далоняй?

**Алесь Барскі**

# БГКТ

### РЭДКАЛЕГІЯ КАЛЕНДАРА

9-га студзеня адбылося першае пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі беларускага календара на 1969 г. Рэдкалегія была зацверджана на пасяджэнні прэзідыума ГП 21.XII.1967 года. У склад яе ўвайшлі: сакратар ГП Уладзімір Юзвюк, Аляксей Казёл, Люба Раманюк і Аляксей Карпюк. Члены рэдкалегіі выбралі галоўнага рэдактара Аляксея Казла.

На гэтым пасяджэнні былі абмеркаваны паасобныя тэмы, арганізацыйныя і тэхнічныя справы звязаныя з яго выданнем.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРАЎЛЕННЯ

Апошняе пасяджэнне праўлення Бельскага аддзела БГКТ (8.I.1967 г.) выслухала справаздачу прэзідыума аддзела з дзейнасці ў 1967 годзе, а таксама прыняло план працы на 1968 год. На гэтым пасяджэнні дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску Мікола Гайдук расказаў аб планах школы адносна правядзення навукова-папулярнай сесіі аб КПП і КПЗБ, а таксама аб сарганізаванні з'езда абсальвентаў бельскага беларускага ліцэя. Гэтыя два вялікія мерапрыемствы школы патрабуюць аграмаднай арганізацыйнай працы і таму дырэктар ліцэя звярнуўся з просьбаю да членаў праўлення аб дапамозе школе ў гэтых справах.

### ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ЮРКІ ШУРБАКА

Народны хор беларускага таварыства ў Бельску Падляшскім здабыў не толькі на Бельшчыне, але далёка па-за яе межамі вялікую папулярнасць.

Пад кіраўніцтвам Юркі Шурбака харавы калектыў падрыхтаваў больш 40-ка беларускіх, рускіх і украінскіх песень. У мінулым 1967 годзе хор даў 18 канцэртаў. Выступаў ён у Супраслі, Чаромусе, Нарве, Нараўцы, Кляшчэлях, Орлі, у Сямяцічкім павеце, у Бельску, Беластоку і іншых мясцовасцях. У хоры налічваецца 40 асоб, а 41-ы член — гэта акампаніятар Сяргей Лукашук. Хор спявае на 4 галасы. І так, у хоры 12 сапранаў, 12 альтаў, 7 тэнараў і 9 басаў. Бельскі народны беларускі хор робіць вялікую культурную работу.

Як мы ўжо інфармавалі пад мастацкім кіраўніцтвам Юркі Шурбака ад кастрычніка 1967 года працуе таксама агзеспа ГП БГКТ «Лявоніха». За тры месяцы мінулага года «Лявоніха» дала 40 канцэртаў.

### ПАДРЫХТОЎКА СПРАВАЗДАЧЫ

10-га студзеня члены прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку падрыхтавалі справаздачны даклад з дзейнасці аддзела за мінулы год. Даклад гэты будзе прачытаны на канферэнцыі аддзела.

### ДАДЗЕНЫЯ ЗА МІНУЛЫ ГОД

На Сакольшчыне існуе зараз 24 гурткі БГКТ, якія аб'ядноўваюць у сваіх радах 403 члены. Драмгурткі з беларускім рэпертуарам у Новым Востраве, Лазнях і Піражках выступалі ў сваіх і суседніх вёсках.

Сакольскі аддзел БГКТ у мінулым годзе вялікую ўвагу ўдзяліў адзначэнню 50-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэтай юбілейнай даце быў прысвечаны фэстын БГКТ у Гуранах і 6 акадэмій. На некаторых акадэміях выступаў аматарскі драмгурток з Піражкоў з п'есай Юркі Геніюша «Зямля».

У 1967 годзе аддзел арганізаваў рэцытатарскі конкурс, агляды драмгурткоў, нараду з выкладчыкамі беларускай мовы, нараду старшынь гурткоў БГКТ, фотавыстаўкі з жыцця БССР і навагоднюю ёлку. На радыёвузлах было прачытана 37 радыёгутарак. (мх)

РАЗМОВА З ДЫРЭКТАРАМ ЯНАМ РАДЗЮКЕВІЧАМ

# СЯРОД КНІГ І ЛЮДЗЕЙ



Аб педагагічнай бібліятэцы ў Беластоку пісалі мы нямнога. Варта тады заглянуць у кабінет дырэктара ЯНА РАДЗЮКЕВІЧА, які, дарэчы, ад дзьух часоў з'яўляецца вялікім прыяцелем беларусаў, і мае немалыя заслугі ў развіцці беларускага школьніцтва ў Народнай Польшчы. Але аб тым потым. А зараз на тэму самой бібліятэкі.

Ваяводская педагагічная бібліятэка мае 19 павятовых і такім чынам сваёй дзейнасцю абымае ўсё ваяводства. Дзейнасць яе назваў дырэктар «услугозай», бо педагагічныя бібліятэкі сваім заданнем лічаць дапамогу перад усім настаўнікам у іх працы і вучобе. Паводле гэтага задання камплектуецца кнігазбор бібліятэк. Тут усё, што школ датычыць, што настаўніку патрэбна. Дзве тысячы настаўнікаў з Беласточчыны, працуючы, вучыцца зараз далей. 40% з гэтага ліку ў вышэйшых школах. Падручнікі і патрэбныя матэрыялы знаходзяць яны ў «сваіх» бібліятэках. Умоўна гаворым аб «свойскасці» педагагічных бібліятэк. З іх маюць права і карыстаюць усе, хто хоча, хто патрабуе.

Звяртаюся да дырэктара Радзюкевіча:

— 38 тысяч тамоў у вашай бібліятэцы можа некаму не хапаць, бо спатрэбіцца яму якраз кніжка, якой у вас няма. Што тады?

— Даставім яму жаданую кніжку. Запатрабуем яе там, дзе яна ёсць: у цэнтральнай педагагічнай бібліятэцы, у Нарадовай, у ПАН-аўскай, у бібліятэцы Варшаўскага ці іншага універсітэта.

— А заграннічныя вашы кантакты?

— З бібліятэкай імя Леніна ў Маскве, універсітэцкай бібліятэкай Маскоўскага універсітэта імя Ламаносава, з бібліятэкамі Мінска і Гродна. Наша павятовая педагагічная бібліятэка ў Элку мае добрую сувязь з універсітэцкай бібліятэкай у Мінску.

— Гляджу я, цесна вам тут у цяперашнім памяшканні, але ёсць жа перспектывы на новы гмах педагагічнай бібліятэкі?

— Ёсць, ёсць. Хутка будзем пры вуліцы Касцельнай 9. На адну чытальню будзе там 200 квадратных метраў, цяпер для параўнання маем 30. Там будуць кабінеты — метадычны, інфармацыі, апрацаванняў і г.д.

— Калі гэта, ці хутка будзе? У першым квартале года?

— Мо лепш сказаць, у першым паўгоддзі.

— У кожным выпадку, у 1968 годзе напэўна. Чытачы вашай бібліятэкі чакаюць. І я сярод іх. Хацела б прасіць вас яшчэ, каб прыпомнілі нам вашу дзейнасць на ніве беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Вы, будучы дырэктарам Завочнай Настаўніцкай Студыі, арганізавалі тады аддзяленне беларускай філалогіі пры беластоцкай ЗСН.

— Ад 1951 до 1956 года я быў кіраўніком аддзела навучання і дасканалення настаўніцкіх кадраў у Беластоцкай Кураторыі. Сутыкнуўся тады з беларускім педагагічным школьніцтвам: з педагагічным ліцэем і ліцэем выхавацельніц прадшколляў у Бельску. Бачыў працу моладзі. Калі ў 1956 годзе стаў дырэктарам ЗСН, супольна з Беларускім Таварыствам мы разважылі гэтую справу. Я заўсёды любіў беларускую культуру і цяпер ведаў, што, каб беларускія школы не былі пакрыўджанымі, трэба арганізаваць іх настаўнікам беларускую студыю. На пісьмо дырэкцыі Міністэрства стварыла беларускае аддзяленне ЗСН у Беластоку.

— Ці цікавіцеся цяпер лёсамі вашых першых выпускнікоў?

— Так, спатыкаюся з многімі тут у бібліятэцы, многія з іх вучацца далей, адзін з іх — Паўлючок — робіць дактарат.

— Бачу, што вы задаволены.

(Працяг на стар. 4)

ПАСЛЯ VII ПЛЕНУМА Ў РАДАХ НАРАДОВЫХ

# Гайнаўскія прапановы

У Прэзідыуме ПРН у Гайнаўцы былі ўнесены і прыняты да рэалізацыі 62 прапановы паляпшэння працы прэзідыума і таксама грамадскіх рад нарадовых. Некаторыя прапановы забягаюць далёка ў будучыню, бо патрабуюць спецыяльных рашэнняў і змен у прадпісаннях на міністэрскім ці ваяводскім узроўні, але былі і драбнейшыя, якія можна рэалізаваць уласнымі сіламі.

11 прапаноў, якія патрабуюць рашэння цэнтральных улад, датычаць галоўным чынам упрашчэння бюракратычнай пісаніны і абмежавання «творчасці» ў арганізацыі рознага тыпу адміністрацыйных адзінак, якія не апраўдваюць сябе на практыцы.

Таварышы з Гайнаўкі прапануюць ліквідаваць дагэтуляшні абавязак прымаць Прэзідыумамі ПРН пастаноў аб прыдзяленні зваротнай грашовай дапамогі для ГРН, калі ў даны момант яна не мае ўласных сродкаў. Аднак вядома, што грамада верне іх яшчэ ў тым самым квартале. Няма патрэбы, каб такое рашэнне прымаў увесь прэзідыум, хопіць толькі згоды старшыні.

У фінансавых справах гайнаўская рада прапануе шэраг змен у гаспадараванні картамі эвідэнцыі і друкамі для ўпрашчэння бюровых аперацый і змяншэння выкарыстоўвання друкаў, а таксама павелічэння прадукцыйнасці пра-

(Працяг на стар. 5)



ЗІМОЮ

Фота: Паўлючук

 

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ВА ЎЛАСНАЙ ПАСТЦЫ

Амерыканская дыпламатыя трапіла ва ўласную пастку. Ад двух год Вашынгтон, разгалошвае па ўсім свеце, што ЗША гатовы спыніць налёты на Паўночны В'етнам і пачаць перагаворы, калі Ханой дасць нейкі сігнал, што гэтага хоча.

Ханой выразіла гатоўнасць да такіх перагавораў, калі толькі ЗША безагаворачна ўстрымаюць бамбардзіроўкі ДРВ. Раск тлумачыць, што прапановы Ханой патрабуюць «зандажаў і доследаў», іншыя афіцыйныя асабістасці засланяюцца неабходнасцю «кансультацыі з Сайгонам», адным словам аб спыненні налётаў няма і гаворкі. Наадварот, бамбардзіроўкі насіліліся.

Такая пастанова Вашынгтона парушыла нават многіх саюзнікаў ЗША. Міністры заграмічных спраў Галандыі, Італіі, Японіі, а нават ФРГ (Бон занепакоены празмерным заангажаваннем ЗША ў Азіі, што аслабляе іх актыўнасць у Еўропе) выказаліся за спыненнем бамбардзіровак.

Знамянальныя палітычныя ходы назіраюцца ў Паўднёвым В'етнаме. Пад уплывам заклiку папы Паўла VI, тамтэйшыя каталіцкія біскупы выступілі з заклікам аб спыненне бамбардзіровак. Да гэтага часу яны былі найбольш энергічнымі прыхільнікамі бамбардзіровак і праціўнікамі перагавораў. Змена палітыкі в'етнамскіх католікаў стварае новыя клопаты сайгонскім генералам. Гэта з'яўляецца таксама дадатковым повадам, для якога Вашынгтон адкідае прапановы Ханой.

### ЭШКОЛЬ — ДЖОНСАН

Размовы шэфа ізраільскага ўрада Эшколя з Джонсанам акружаны двухбаковай сакрэтнасцю. Аднак некаторыя карэспандэнты даносяць, што ізраільскі прэм'ер атрымаў з боку амерыканскага прэзідэнта абяцанне дастаўкі Ізраілю ўсялякага роду ваенных прылад, а таксама запэўніў аб палітычнай падтрымцы Ізраіля.

### 21.700 МАЕ БОЛЬШ 100 ГОД

У Савецкім Саюзе зараз пражывае 21.700 чалавек, якія жывуць больш 100 год. Найстарэйшым грамадзянінам СССР з'яўляецца жыхар Азербайджана 162-гадовы Шыралі Муслімаў. Міма свайго ўзросту Муслімаў усё яшчэ працуе ў сваім агародзе. Яго трэцяй жонцы 89 год. Калі з ёю жаніўся, меў 100 год, а яна 27.

### БАЛАНС ПАТРЭБ 2000 ГОДА

У 2000 годзе насельніцтва свету павялічыцца да 7 мільярдаў. Каб запэўніць усім дзецям да 14 год навуку ў пачатковай школе, лічачы па 35 вучняў у класе, трэба будзе 60 мільёнаў настаўнікаў г. зн. амаль у шэсць разоў больш, чым зараз ва ўсім свеце.

Для дасягнення мінімальнай нормы 1 лекар на 1.000 чалавек насельніцтва, трэба будзе 7 мільёнаў лекараў. Зараз ёсць іх на свеце 1,5 мільёна. У Польшчы маецца каля 42 тыс. лекараў (без дэнтыстаў) і на 10.000 жыхараў прыпадае 13 лекараў.

А.К.

## БССР

### СПАДЧЫНА

Мінская **«Чырвоная змена»** змясціла матэрыял **«Спадчына — наша святыня».**

**«...мы спяваем літаральна ўсё, што трапляе пад руку, толькі не народнае, толькі не сваё самабытнае. «Рэчанька», «Нёман», «Ручнікі», «Лясная песня» калі-некалі яшчэ спяваюцца як у калектывах мастацкай самадзейнасці, так і за святочным сталом. А што яшчэ беларускае?»** — канстатуе аўтар публікацыі, Валянцін Лукша.

У заканчэнні піша ён:

**«Спадчына — гэта і царква на Замчышчы ў Полацку, і ўзгорак, дзе аддаў жыццё за Радзіму Я. П. Кульнёў, сціплы глячок і ручнік, вышыты слуцкай майстрыцай, фігурка Несцеркі, выразаная з дрэва, і мілагучная песня. Спадчына — фундамент нашай высокай культуры. І мы павінны берагчы яе. Мы павінны яе памнажаць.**

**Спадчына — наша святыня».**

### БЕЛАРУСКАЯ

Беларускі кампазітар Гэнрык Вагнэр напісаў першую тэлевізійную оперу на беларускай мове, па матывах вядомай паэмы Куляшова «Песня аб слаўным паходзе». Прэм'ера оперы была трансклявана на Маскву.

### VIII-мы

У Мінску адбыўся VIII-мы з'езд мастакоў Беларусі. Прысутны на з'ездзе **сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч зачытаў** прывітанне ЦК КП Беларусі з'езду.

### БАРЦЫ

У беларускім друку апублікавана артыкул аб развіцці класічнай і вольнай барацьбы ў Беларусі.

**«Беларуская школа барацьбы мае добрыя традыцыі, карыстаецца аўтарытэтам сярод спецыялістаў не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Таму заканамерна, што першынство Еўропы па класічнай барацьбе, якое ўпершыню праводзілася ў СССР, адбылося іменна ў Мінску»,** — сцвярджаецца ў гэтым артыкуле.

### КЛУБ

**«Клуб жывога слова»** існуе пры кафедры беларускай мовы і літаратуры педагагічнага інстытута ў Мінску. Дзейнасцю клуба кіруе рада, якую ўзначальвае загадчык кафедры дацэнт **Ф. Янкоўскі**. Сярод праблем і пытанняў, якія ставяцца на пасяджэннях клуба, гэта: слова і яго жыццё, слова і мастацкі вобраз, народнае слова і слова народнай песні, слова і жывапіс, мова лектара і прапагандыста, слова народнае і літаратурнае.

У працы клуба ўдзельнічаюць відныя дзеячы беларускай культуры. На пасяджэнні клуба прыходзяць таксама студэнты і з іншых навучальных устаноў сталіцы.

### СУСТРЭЧА

У рэдакцыі **«Звязды»** адбылася перадынавагодняя сустрэча дзеячаў культуры і мастацтва. Іх выказванні апублікавана ў навагоднім нумары газеты.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЛУГІ

— План развіцця паслуг на гэты год прадбачыць, што вартасць кааператыўных паслуг узрасце на 11 працэнтаў, а вартасць паслуг індывідуальных на 10 прац., — заявіў Старшыня камітэта дробнай вытворчасці, Уладзімір Ляховіч, у інтэрв'ю дадзеным прадстаўніку агенцтва ПАП. Галоўныя намаганні накіраваныя будуць на развіццё паслуг рамонтна-будаўляных, радыёва-тэлевізійных, рамонту прыладаў хатняй гаспадаркі, паслуг для сельскай гаспадаркі. Развіццё тэтых паслуг асягне тэмп 20—25 прац. Найбольшае развіццё адбудзецца ў ваяводствах дагэтуль занядбаных: Беластоцкім, Кялецкім, Кракаўскім, Люблінскім, Варшаўскім. Не гледзячы аднак на ўсё гэта, паводле Ул. Ляховіча не ўдасца нам зрэалізаваць заданняў гэтай пяцігодкі ў галіне развіцця паслуг для насельніцтва.

### У 60 КРАІНАХ

У звыш 60 краінах працуюць ужо featознага роду прамысловыя аб'екты будаваныя польскаю цэнтраляю замежнага гандлю — СЕКОР. Ад 1955 года цэнтраля тэта пабудавала за мяжою каля 500 featознага роду прамысловых прадпрыемстваў, а перад усім цукроўняў, электроўняў, рыбацкіх баз, збожжавых складаў і г.д. Каля 70 прац. гэтага экспарту ідзе ў сацыялістычныя краіны.

### СТЫМУЛЯТАРЫ

У Інстытуце кардыялогіі медыцынскай акадэміі ў Варшаве адкрыта «Банк стымулятараў» — мініятурных, транзістарных «разрушнікаў» сэрца. Апараты гэтыя прышчэпліваюцца ў грудзях пацыентаў. Дзякуючы электрычным імпульсам забяспечваюць яны рытмічную працу сэрца. У Польшчы жыве ўжо каля 100 асоб з гэтымі апаратамі ў грудзях. Такім чынам ратуецца жыццё людзей, якіх стан у іншым выпадку быў бы зусім безнадзейным. Шэраг такога тыпу аперацый праведзена між іншым у Беластоцкай клінічнай бальніцы.

### 60 000

Пасля летніх канікулаў не прыступіла да навукі звыш 40 тысяч вучняў пачатковых школ. На працягу мінулага навучальнага года пакінула навуку звыш 20 тысяч вучняў пачатковых школ. Такім чынам на працягу аднаго навучальнага года пакінула пачатковую школу звыш 60 тысяч дзяцей. Колькасць моладзі, якая спыняе вучобу, утрымліваецца на аднолькавым ўзроўні і асягае 1,27 працэнта да агульнай колькасці дзяцей, якія вучацца ў пачатковых школах.

### ДРЭВА

Эканамічны камітэт Рады міністраў прыняў праект пастановы міністра лясніцтва і лясной прамысловасці ў справе продажы рэзанага дрэва ўласнікам тартачнага іглістага дрэва. Згодна з пастановай уласнікі тартачнай сыравіны ў замен за продаж яе дзяржаве змогуць купіць рэзанае дрэва патрэбнага ім сорту.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ТЭЛЕБАЧАННЕ Ў ГОЛДАПІ

Павятовы горад Голдап, які знаходзіцца на поўначы Беластоцкага ваяводства, з увагі на сваё геаграфічнае палажэнне не мог карыстацца праграмай польскага тэлебачання. Дагэтуль некаторыя жыхары Голдапа і павета накіроўвалі антэны сваіх тэлевізараў на Калінінград. Нядаўна пад Голдапам на Прыгожай Гары пабудавана рэтрансляцыйную станцыю, якая поўнасцю абяспечвае жыхараў Голдапа і Голдапскага павета праграмай Варшаўскага тэлевізійнага цэнтра.

### СУДНА «ГАЙНАЎКА»

Аднойчы мы ўжо пісалі, што калектыў Гайнаўскага прадпрыемства драўлянай прамысловасці выступіў з прапановай, каб аднаму з новапабудаваных суднаў прысвоіць імя «Гайнаўка». Дырэкцыя Польскага мараплавання ў Шчэціне апошнім часам паведаміла Гайнаўскае прадпрыемства, што поўнасцю адабрыла прапанову яго калектыва. У гэтым годзе ў Шчэціне пачнуць серыйную пабудову суднаў прыстасаваных да перавозкі драўніны. Адно з першых суднаў гэтай серыі названа будзе імем горада Гайнаўка. Прадбачваецца, што судна «Гайнаўка» выйдзе ў мора яшчэ ў 1970 годзе.

### ПАЖАРНІКІ Ў СУКЕНКАХ

У Манецкім павеце дзейнічае аж 12 жаночых супрацьпажарных каманд. Найбольш актыўнымі лічацца каманды з Ганёндза і Кныпына.

### НАЙЛЕПШЫЯ КУЛЬТУРНЫЯ

Год таму назад Аддзел культуры ВРН, Ваяводскае праўленне ЗМВ і ВЗГС аб'явілі конкурс на найлепшы, найбольш актыўны культурны цэнтр у ваяводстве. Конкурс працягваўся год часу. Прыступіла да яго 336 вясковых цэнтраў культуры. Пасля падрабязнай ацэнкі іх дзейнасці конкурсная камісія рашыла, што найлепшымі клубамі ў ваяводстве з'яўляюцца: клуб «Руху» ў Крамкуўцы Малой, у Манецкім павеце і клуб «Селяніна» ў Баршчэве, Беластоцкага павета. Другое месца заваяваў клуб «Руху» ў Страблі на Бельшчыне.

### ДЛЯ ЗАВОЧНІКАЎ

У Беластоку дзейнічае кансультацыйны пункт Галоўнай школы планавання і статыстыкі. Кожны, хто мае атэстат сталасці і хоча завочна вывучаць эканомію прамысловасці сельскай гаспадаркі, будаўніцтва і эканомію працы і грамадскай палітыкі, можа скласці заяўку да 25 студзеня г.г. па адрасу Рабочага універсітэта ЗМС у Беластоку, а пасля гэтага тэрміну, да 15 лютага г.г. — на адрас ЗГПіС у Варшаве. Навука (вядома пасля паступовага ўступнага экзамену) адбываецца будзе ў Беластоку.

### ХОЛАД

Зіма прыйшла позна, але затое яна снежная і марозная. Да гэтага часу найбольш холадна на Беласточчыне было ў Сувалках — 28 градусаў ніжэй нуля.

## TELEWIZJA WARSZAWA

**NIEDZIELA, 21.I.**

9.30 Program dnia. 9.35 TV Kurs Rolniczy: „Tucz mięsny trzody chlewnej". 10.10 „Przypominamy. radzimy". 10.20 „Spotkanie z Szaliapinem" — film dok. radz. 11.45 PKF. 11.55 „Historia tysiąca parowozów" — film dok. radz. 12.20 Dziennik. 12.30 „Uciekinier" — film. 13.00 „PROM" — poranek muzyczny. 13.50 Dla dzieci: „Cuda i dziwy". 14.20 „Przemiany". 15.00 Sprawozdanie sportowe. 16.15 „Piosenki A. Dedic'a" — program rozrywkowy. 17.00 „Ludzie i zdarzenia". 17.15 Teatr TV: K. Nesver — „Spadek na kredyt". 18.00 „Piórkiem i węglem". 18.20 „Tadeusz Breza" („Spotkanie z pisarzem"). 18.50 „Ja gorę" — film tv pol. („Opowieści niezwykłe"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wieczór przy kominku". 20.40 „Chodząc po Moskwie" — film fab. radz. 21.25 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 22.I.**

16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Kino Ptyś". 17.20 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.45 „Eureka". 18.15 „Tramp". 18.35 „Ośmiornice" — film kanadyjski. 18.50 „Kino Krótkich Filmów". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: K. Waterhouse i W. Hall — „Babia góra". 21.15 „Godzina duchów" — film dok. NRD. 22.25 Dziennik.

**WTOREK, 23.I.**

10.00 Dla szkół (kl. I) „Szczypie mróz, pada śnieg". 10.20 „Sieci Saturna" cz. I — film tv CSRS pt. „Spotkania z nieprzyjacielem". 11.35 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski Eugene Ionesco „Nosorożec". 12.35 i 16.20 Przysposobienie Rolnicze: „Nawozy azotowe". 13.10 Przerwa. 16.15 Program dnia. 16.55 Dzinenik. 17.00 Dla młodych widzów: „Zima w obiektywie" II. 17.20 Dla młodych widzów: „Zapraszam na wtorek wieczór". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 „Sztuka nieznanych mistrzów" — film bułg. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Po szóstej". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Reportaż filmowy. 20.25 „Giełda piosenki". 20.55 „Próby". 21.20 „Sieci Saturna" cz. I — film tv CSRS z serii „Spotkanie z nieprzyjacielem". 22.40 Dziennik.

**ŚRODA, 24.I.**

9.25 „Gdyby każdy z nas" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie „Made in Poland". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: „Energetyczne skutki prądu". 12.25 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Co zimą słychać w ZOO". 17.30 Dla dzieci: „Bolek i Lolek na wakacjach" — film. 17.40 „Telekram". 18.20 PKF. 18.30 „Poszukiwanie trwa" — film dok. radz. 18.50 „Przegląd muzyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Bardzo starzy oboje" — film TVP. 20.30 „Światowid". 21.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (Szwecja). 22.30 Dziennik.

**CZWARTEK, 25.I.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Język polski: „Polska poezja renesansowa". 10.30 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia: Stefan Czarniecki i jego żołnierze". 11.25 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.30 Teatr Młodego Widza: K. Sołonowicz-Olbrychska i B. Tylicka: „Anioł Gabriel z Paryża". 18.00 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.30 „Z kamerą po kraju". 18.50 „Bolesław Szabelski" — „Sylwetka kompozytora". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Czy ryzykować?". 20.20 Teatr Kobra: J. Słotwiński — „Spokojna noc". 21.30 „Refleksje". 22.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (Vesteras-Szwecja). 22.30 Dziennik.

**PIĄTEK, 26.I.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.). „Panorama". 10.30 „Pierwszy dzień mego syna" — film fab. CSRS. 12.10 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: „Elektryczne mechanizmy domowe". 13.15 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 „Miś z okienka". 17.15 „Afrykańskie obrzędy i obyczaje" — film („Wielka przygoda"). 17.45 „Klub Dobrych Gospodarzy". 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Za kierownicą". 19.00 „Wielokropek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (Vesteras-Szwecja). 20.45 „Pejzaże". 21.30 „Dzieci" — program dokument. 21.55 Dziennik.

**SOBOTA. 27.I.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: „Szwajcaria". 10.30 „Więzy krwi" — film fab. radz. 11.55 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Nad Amazonką". 12.45 Przerwa. 15.50 Program dnia. 15.55 TV Kurs Rolniczy: „Czynniki wpływające na rentowność trzody chlewnej". 16.30 Program Tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Czwórka z podwórka" — kabaret. 17.40 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników". 17.55 „Spotkania z przyrodą". 18.20 „Radar". 18.30 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.05 „Rada zwierząt" — film („La Fonteine wiecznie żywy"). 20.30 „Tryptyk jazzowy" — muzyczny film tv pol. 20.55 Dziennik. 21.20 Mistrzostwa Europy w jeździe figurowej na lodzie (Vesteras — Szwecja). 22.30 „Wszystko, co najlepsze" — film fab. ang.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 19 stycznia**

8.00 Program dnia. 8.05 Dziennik. 8.15 Film animowany dla dzieci. 8.30 „Kłos". 9.00 Teatr literacki. 9.45 „Dwaj bracia". Spektakl TV. 14.40 Program dnia. 14.45 J. ang. dla przedszkolaków. 15.05 Dziennik. 15.15 K. Paustowski. „Noc Leningradzka". Spektakl TV. 16.00 Podróż do Afryki. 16.30 Dla młodych techników. 17.00 Dziennik. 17.15 Klub Filmowy. 18.15 „Kartki kalendarza muzycznego". 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 Koncert życzeń. 19.45 „Liczy elektronika". 20.15 „Trzynaście krzeseł". TV teatr miniatur. 21.15 „Tylko fakty".

**Sobota, 20 stycznia**

7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Zdrowie". 9.15 „Obiektyw". 10.15 „Karty wielkiej przyjaźni". 10.45 „Reportaż sobotni". 11.15 „Kronika wielkiej bitwy". 12.00 Telewizja barwna. 13.30 TV teatr dla dzieci. 14.30 Dziennik. 14.45 „Kogucik". Film dla dzieci. 15.15 „Szkatułka muzyczna". 15.45 Kronika półwiecza. „Rok 1960". 16.45 „Opowiadania o Leninie". Film. 18.15 Przerwa muzyczna. 18.30 „Czas". 19.00 „Kocham cię, życie". Koncert. 20.00 „Melodie 1967 roku". 20.30 Dziennik. 20.40 „Nagrodzone filmy". 21.15 „Sala tańców".

**Niedziela, 21 stycznia**

7.00 Gimnastyka. 7.15 „Budzik". 7.45 Dziennik. 8.00 „Białe i czarne". 8.30 „Nowe książki". 9.00 Koncert z Kijowa. 10.00 „Dzień jutrzejszy naszej Białorusi". 10.40 „Konstanty Zasłonow". Film. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 „Cybernetyka i człowiek". 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 „Kiosk muzyczny". 15.00 Almanach TV. 16.15 Kronika Półwiecza: „Rok 1961". 17.15 K. Mołczanow. „Twierdza brzeska". Spektakl muzyczny. 19.15 „Siedem dni". 20.00 Film TV. 21.00 „Tylko fakty". 21.10 Program muzyczny.



 

# Рэлігія і этнаграфія

Часта сустрэцца можна з поглядамі, выказванымі рознымі асобамі, быццам бы межы этнаграфічных і веравызнаўчых разрозненняў на Беласточчыне былі ў мінулым зусім іншымі, чым цяпер. Або лічыцца, што ўся Беласточчына была калісьці каталіцкай і толькі адносна нядаўна цар яе апраславіў, а затым збеларусіфікаваў, або наадварот — лічыцца, што ўсходняя частка Беласточчыны аж па этнаграфічную беларуска-мазавецкую мяжу — гэта значыць, уключна з Сакольскім і Дубровскім паветамі, былі калісьці праваслаўнымі і толькі пазней былі акаталічаны ксяндзамі, а затым паступова паланізаваны. І адзін і другі погляд няслушны.

Веравызнаўчыя межы, так як і этнаграфічныя межы праяўляюць здзіўляючую проста трываласць. Знаўца першабытных этнічных суадносін на нашай тэрыторыі, Аляксандр Камінскі высоўвае думку, што рэчкі Бярозавая і Малая Сухолда, уздоўж якіх зараз ідзе мяжа паміж тыпова беларускімі і беларуска-мазавецкімі дыялектамі, ужо ў раннім сярэдневякоўі раздзялялі дзве этнічныя сферы: мазавецкую і рускую, размяжоўвалі каланізацыі і эксплуатацыю абшару паміж Нарвай і Бебжай. Абшар гэты пасля знішчэння балтыйскіх плямён — яцвягаў — аставаўся на працягу доўгага часу або пусты, або заселены вельмі рэдка. Каланізацыя гэтых пушчаў адбывалася з захаду, з Візны, і з ўсходу, з Гродна. Сучасная этнаграфічная беларуска-мазавецкая мяжа па рэчцы Бярозавай размяжоўвала ўплывы гэтых каланізацый[1]). Пры вызначэнні гэтай мяжы Камінскі спасылаецца на дакумент з 1358 года, у якім вызначаюцца граніцы Вялікага Княства Літоўскага, у рамах якога адбывалася экспансія ўсходняй славяншчыны на гэтыя землі, якраз па лініі сённяшняй этнаграфічнай мяжы.

Згоднасць сучасных дыялектычных межаў са старымі палітычнымі межамі каглядна паказвае таксама апрацаваная Станіславам Глінкам карта, апублікаваная разам з яго артыкулам, прысвечаным гэтай праблеме[2]).

Прыналежнасць да Літвы вызначала напрамак, з якога ішла каланізацыя тэрыторыі на поўнач ад ракі Нарвы. Была гэта пераважна наднёманская каланізацыя. Аб беларускасці гэтага асадніцтва можна аднак гаварыць выключна ў культурна-моўных адносінах. У сэнсе антрапалагічным, «расавым» людзі, якія засялялі сённяшнюю Сакольшчыну, былі даўно ўжо зусім збеларусіфікаванымі ліцвінамі[3]). Былі яны католікамі яшчэ перад каланізацыяй Беласточчыны, або пераходзілі ў каталіцызм адразу пасля прыбыцця на гэтыя землі. Такім чынам, вёскі сёння каталіцкія былі каталіцкімі ў час іх заснавання ў перыяд XV-XVII стагоддзяў, а вёскі праваслаўныя былі ў тыя самыя часы ўжо праваслаўнымі. Сведчаць аб тым спісы жыхараў нашых вёсак з XVI стагоддзя, у якіх знаходзім або імёны выключна каталіцкія ў вёсках сёння каталіцкіх, або выключна праваслаўныя ў вёсках сёння праваслаўных, або мешаныя ў мешаных вёсках[4]). Сведчаць аб тым таксама спісы царкоў і праваслаўнага духавенства ў XVI стагоддзі[5]).

Зразумела, дамінуючая роля польскай культуры і каталіцызму на тэрыторыі Беласточчыны на працягу доўгіх стагоддзяў не асталася без уплыву. У выніку націску каталіцызму праваслаўе страціла свае ўплывы ў таких найбольш на захад высунутых мясцовасцях, як Тыкоцін, Сураж, Кнышын, дзе за часоў Літоўскага княства існавалі царквы і пражывала праваслаўнае насельніцтва. У выніку ўплываў польскай культуры назіраем паступовае пашырэнне польскай нацыянальнай свядомасці сярод беларуска-каталіцкага насельніцтва аж да поўнай інтэграцыі гэтага насельніцтва ў рамках польскай нацыі.

**Ул. Паўлючук**

[1]) A. Kamiński: Pogranicze polsko-rusko-jaćwieskie pomiędzy Biebrzą i Narwią. „Rocznik Białostocki" Tom III. Białystok 1963.

[2]) S. Glinka: Granica językowa i przykłady zróżnicowania fonetycznego gwar białoruskich Białostocczyzny. „Sprawozdania z Prac Naukowych Wydziału Nauk Społecznych PAN". Ossolineum 1960 z. 5.

[3]) J. Jakubowski: Powiat grodzieński w w. XVI. „Prace Komisji Atlasu Historycznego Polski". z. III. Kraków 1935.

[4]) Пісцовая кніга гродзенскай эканоміі. Вільно 1881.

[5]) A. Jakubowski: Polska w XVI wieku. Tom VI Podlasie cz. II. str. 229—230.

САЗМАГАРНАЙ КАГОРТЫ

# ЦІШКА ГАРТНЫ

Цішка Гартны — Змітрок Хвёдаравіч Жылуновіч — нарадзіўся пад шчаслівай зоркай, няглядзячы на трагічны эпілог яго жыцця.

Сын беднага капыльскага селяніна, — наўрад ці ён марыў у пару свайго юнацтва, што на яго долю выпадзе так многа выпрабаванняў, надзей і спадзяванняў. І напэўна ўжо не ведаў рэвалюцыйна настроены бунтар, што яго жыццёвы шлях не будзе ўсыпаны ружамі і яму да канца дзён сваіх давядзецца карабкацца па камяністых сцежках-дарожках.

Што было рабіць?

Ісці з народам — змагаром за шчасную долю і волю ўсіх уніжаных і прыгнечаных самаўладствам. Ісці плячо ў плячо з народам і стаць на чале народа, у авангардзе яго самааддана барацьбы.

Гэта было ў бурныя дні першай рускай рэвалюцыі 1905 г. Пад уплывам яе жыватворчага духу Жылуновіч — Гартны стварае адну з першых на Беларусі сацыял-дэмакратычных арганізацый.

Слаўная, незабыўная пара!



Слаўная тым, што плады тагачаснай барацьбы высечаны на скрыжалях гісторыі рэвалюцыйнай барацьбы народных мас Беларусі. І не ўсім, напэўна, вядома сёння, што з Капыльскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, на чале якой стаяў Змітрок Жылуновіч, выйшла цэлая плеяда рэвалюцыянераў — падпольшчыкаў — арганізатараў, актыўных удзельнікаў грамадзянскай вайны, першых наркомаў БССР і папулярных пісьменнікаў.

А тым часам жыццё ішло наперад, і выгнанец вёскі, малады Жылуновіч, уліваецца ў шэрагі рыжскіх і пецярбургскіх пралетарыяў. Гэта быў першы яго універсітэт, адлюстраваны пасля ў рамане «Сокі цаліны». Рэвалюцыйная работа, поўная трывог і небяспекі, працягвалася. Самасвядомасць пралетарыя прывяла затым Жылуновіча ў бальшавіцкі стан. Не хістаючыся, ён змагаецца ў 1917 за перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Пасля перамоганоснай урачыстасці яе Гартны, рабочы, паэт і публіцыст, шмат сілы і энергіі пакладае, каб з'яднаць беларускія рэвалюцыйныя сілы краю, а таксама ў Маскве, Пецярбургу і ўсёй Расіі, на барацьбу за Савецкую Беларусь. Ён карыстаецца даверам Уладзіміра Ільіча Леніна і, кіруючыся дырэктывамі ЦК партыі бальшавікоў, ствараe газету «Дзянніца», а затым, з 1 студзеня 1919, становіцца Старшынёй першага Беларускага Савецкага ўрада. У кабінет Жылуновіча-Гартнага ўваходзіў, у якасці народнага камісара па справах нацыянальнасцей, яшчэ адзін папулярны ў свой час і несправядліва забыты празаік, паэт і палымяны публіцыст-тэарэтык Фабіян Шантыр, таксама выхадзец з Капыльскай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі.

3 ліпеня 1920 і да самае сваёй трагічнай канчыны ў красавіку 1937 Цішка Гартны ні на адну хвіліну не спыняў актыўнай дзяржаўнай, грамадскай і пісьменніцкай дзейнасці. Як пісьменнік, ён пакінуў глыбокі след у беларускай савецкай літаратуры. Дастаткова сказаць, што менавіта Гартны з'яўляецца роданачальнікам беларускага сацыяльнага рамана («Сокі цаліны», «Бацькава воля») і сучаснай навелы. Ужо гэтага аднаго дастаткова, каб здабыць сабе добрае імя і шчырую павагу ўдзячных патомкаў. У іх сэрцах жыве і жыццём светлы вобраз пісьменніка і дзяржаўнага дзеяча.

**Сцяпан Майхровіч**

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



**Народны хор даярак калгаса імя Пушкіна Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці выконвае беларускую народную песню «Бацька добры, а мачаха злая».**

## фальклор

# ЕСТ У ПОЛІ ЯВОР

Ест у полі явор  
Пуод явором вішня.  
Уся моя радзіна  
На гулянье вышла.

Радзіна гуляе,  
Мане ўспамінае.  
Ест у полі крыніца —  
Вада высыхае.

У крынічаньцы высахне,  
У рэчаньцы прыбудзе.  
Ест у мане ойцец, маці.  
Гасціна там будзе.

Ступ'ю я на кладку,  
Кладка шыбко гнецца.  
Умрэ ойцец, маці,  
Гасціна мінецца.

Быстра вода, быстра  
Берагі падносіт.  
А брацец сеструнку  
Ў гасціну просіт.

Просіт жэ вуон, просіт,  
Просіт прыпрашае.  
Сідзіт братавая,  
Скрыва паглядае.

Мая жэ ты міла  
Ні паглядай скрыва.  
Бо майой сеструонцы  
Гасціна не міла.

Запісаў ад **Фядосі Барташук з Лянева**, гадоў 75 — **Янка Цялушэцкі.**

## БЕЛАРУСКІЯ ВУЛІЦЫ БЕЛАСТОКА

У Беластоку ёсць дзесяць вуліц, якія свае назвы ўзялі ад беларускіх дзеячаў, гарадоў ці земляў. А вось гэтыя вуліцы: Віцебская, Кастуся Каліноўскага, Кобрынская, Магілёўская, Мінская, Навагрудская, Палеская, Пінская, Слонімская і Веры Харужай. (рл)

## СТАЛОВАЯ Ў ПГР

У ПГР Геранімова Беластоцкага павета ў мінулым годзе адкрыта сталовую, з якой карыстаюць перш за ўсё працаўнікі рамонтна-будаўлянай брыгады, якая тут праводзіць рамонты жылых памяшканняў рабочым ПГР і іншых будынкаў. (ак)

# ЯК У НАС З АШЧАДНАСЦЮ

Многа ў нас гаворыцца аб ашчаднасці, а кастрычнік адзначаецца ў нашай краіне як месяц ашчаднасці. Адбываюцца на пачатку месяца агульнакраёвая, ваяводскія і павятовыя ўрачыстыя адкрыцці месяца ашчаднасці. Многа гаворыцца аб розных тыпах ашчадных кніжак (самаходных, мешканёвых, турыстычных, апрацэнтаваных на 5 і 3 працэнты і г.д.), аб тым, як агітуецца насельніцтва за ашчаднасцю грошай і аб вялікіх карысцях, якія дае ашчаднасць у постаці дапісвання «адсэткаў» да сумы, якая знаходзіцца на кніжцы.

Усё гэта добра, усё гэта патрэбна. Неабходна прывіваць людзям навыкі сістэматычнай ашчаднасці, і гэтыя ашчаднасці не трымаць у хаце, а толькі ў ПКО.

Шкада што ўвогуле не гаворыцца і не вядзецца кампаніі адносна ашчаднасці будаўляных матэрыялаў, сыравіны, бензіну і т.д. Не аднаму чалавеку душа баліць, калі бачыць дзяржаўную будоўлю і марнатраўства будаўляных матэрыялаў. Колькі нішчэе цэглы, цэменту, вапны, каменя ў час будавання дзяржаўных будынкаў. Не вядзецца агітацыйнай работы сярод рабочых, майстраў, шафёраў, грузчыкаў, каб да дзяржаўных матэрыялаў адносіліся так, як да сваіх, каб не дапускалі змарнавацца ніводнай цэглы, ніводнай дошкі, ні кілаграма цэменту і вапны.

Усім вядома, што на такі самы будынак, калі будуе хто для сябе, патраціць матэрыялаў на многа тысяч менш. Ён ніколі не дазволіць, каб «вывротка» вывернула з кузава цэглу на зямлю і пры гэтым многа іх паразбівала, ён не дазволіць браць дошчак ці кантовак па чарзе, а заўсёды дакладна вымярае і эканомна выкарыстае і даўжэйшыя і карацейшыя кускі, ён не дазволіць заваліць зямлёю ніводнага каменя, які з'яўляецца каштоўным матэрыялам на фундамент.

Справа ў тым, што кіраўніцтва будаўляных установ, інвестары замала звяртаюць увагу на ашчаднасць, што амаль няма кантролю будаўляных матэрыялаў на пляцоўках будоваў, што няма пакаранняў за растратнасць, за негаспадарнасць.

Не звяртаецца ў нас увагі на ашчаднасць часу. Сяляне часта вымушаны без патрэбы траціць каштоўны час на ўладжванне розных спраў ва ўстановах. Ёсць яшчэ шмат бюракратаў, якія не ўладзяць справы адразу, а пасылаюць чалавека з установы да ўстановы.

(мх)



БАРЫСАЎКА.

Фота: Ул. Паўлючук

# ПАЎДНЁВЫ ВОСТРАЎ

Паўднёвы Востраў — гэта адна з большых вёсак на Сакольшчыне. Да першай сусветнай вайны, прыкладна ў 1912—1913 гадах многа жыхараў Паўднёвага Вострава працавала ў шматлікіх гарбарнях Крынак. Некалькі асоб хадзіла на працу на тэкстыльную фабрыку ў Пясчаніках і некалькі чалавек выраблялa тарпентыну ў Майдане ў Барсуковіне.

У той час, а таксама пазней, у часы санацыйнай улады, не было адплыву людзей у горад. Напрыклад, у Беластоку жылі толькі лічаныя асобы, якім удалося «ўцясацца» на якую-небудзь працу. У гарадах не было працы і таму ў кожнай вёсцы ў тым ліку і Паўднёвым Востраве было многа людзей.

Нягледзячы на тое, што панаваў тады на вёсках «голад» на зямлю, што на вёсцы не было чаго рабіць для стольkіх людзей, што жылося вельмі цяжка — моладзь сама арганізавала сабе культурныя мерапрыемствы.

У Паўднёвым Востраве моладзь купіла патэфон і пласцінкі з танцамі і рускімі песнямі. І вось на гэты «патэфон» заўсёды збіралася многа моладзі, танцавалі пад яго музыку, слухалі песні. Не толькі сярод моладзі, але і сярод старэйшых здабыла тады вялікую папулярнасць песня «Чудный месяц плывёт над рекою». Тады бывала збярэцца каля каго-небудзь на вуліцы чалавек 20—30 моладзі ды як зацягнуць песню, што аж слухаць люба.

Не пачуць цяпер нідзе на вёсцы такога спеву. Няма цяпер столькі моладзі на вёсцы. Адышла яна ў горад вучыцца, працаваць, жыць. Няма амаль такой хаты ў Паўднёвым Востраве, каб хто-небудзь не жыў у Беластоку або іншым горадзе. Толькі ў час свят прыязджаюць яны, гэтыя «гарадскія госці» да сваіх родных хат, каб не забыцца, кім яны былі раней, а кім з'яўляюцца цяпер. А многія з іх паконччылі сярэднія і вышэйшыя школы, многія працуюць на высокіх адказных становішчах. У Паўднёвым Востраве нямнога малодшага пакалення. Пераважаюць тут старэйшыя. Пастарэла вёска. Пазаставалася ў ёй многа старых бацькоў, якім з кожным годам усё цяжэй робіцца працаваць на гаспадарцы, не хапае сіл, тым больш, што зямля вузкімі палоскамі цягнецца па некалькі кіламетраў.

Але ўжо і цераспалосіцы прыходзіць канец. Да восені гэтага года закончыцца ў Паўднёвым Востраве камасацыя зямлі. Людзі атрымаюць яе ў адным або некалькіх кавалках. Гэта значна аблегчыць жыццё і працу. У адным кавалку зямлю будзе лягчэй абрабляць старым бацькам і іх дзецям, якія прыязджаюць з горада на дапамогу ў працы. Гэта будзе чарговая вялікая падзея ў жыцці вёскі, не меншая па свайму значэнню, чым электрыфікацыя ці радыёфікацыя або як доступ усім да вучобы ці магчымасці працы ў гарадах, у прамысловасці.

(мх)

(Працяг са стар. 1)

# СЯРОД КНІГ І ЛЮДЗЕЙ

— Гавару гэта з гонарам, бо я ўсё яшчэ адчуваю сябе педагогам.

*

Ужо пасля размовы дырэктар паказвае мне асаблівасці свайго цеснага кабінета: экземпляр «Рускай Праўды» — правоў вялікага князя Яраслава Уладзіміравіча з XI стагоддзя, выдадзены ў паралельным тэксце — польскім і славянскім — друкарняй піяраў у Варшаве ў 1820 годзе, балгарскае тлумачэнне «Хлопаў» Рэйманта з 1934 года, найстарэйшыя славянскія тэксты — запісы на бярозавай кары і, нарэшце, рэч новую — кніжку **Часлава Выцэха** аб Таварыстве дэмакратычнай асветы «Новыя торы», якое дзейнічала ад 1931 да 1939 года. Сярод прагрэсіўных левых настаўнікаў знаходжу тут прозвішчы з Белавежы, Пружан, Беластока. Таксама прозвішча Яна Радзюкевіча. На першай старонцы адручная дэдыкацыя аўтара Яну Радзюкевічу «на памяць супольнай барацьбы і працы».

Сярод многіх адзначэнняў Яна Радзюкевіча назаву адно з 1966 года — Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы.

Размову запісала

**Вера Леўчук**

**БЕЛАРУСІЯНА**

# КУЛЬТУРА БЕЛАРУСАЎ СЯРОД ІНШЫХ СЛАВЯНСКІХ КУЛЬТУР

Паўторнае выданне кніжкі Казіміра Машыньскага «Kultura ludowa Słowian» з'яўляецца несумненна вялікай падзеяй у навуковым і культурным жыцці. Кніжка гэта з'яўляецца адзінай сінтэтычнай апрацоўкай народнай культуры славянскіх народаў; выдадзена ўпершыню ў трыццатыя гады, была яна цяпер амаль недаступнаю. Першыя два тамы паўторнага выдання паявіліся ў продажу ў канцы 1967 года, трэці і апошні том паявіцца мабыць у першых месяцах 1968 года. Кніжка Машыньскага выдадзена на гэты раз у тыражы 5000 экземпляраў і адразу ўвесь тыраж быў раскуплены.

«Народная культура славян» Машыньскага — неабходны дапаможнік кожнаму, хто займаецца, ці цікавіцца беларускай народнай культурай. Беларусам і іх культуры адводзіць Машыньскі ў сваёй кніжцы многа месца. Дзеецца так з дзвюх прычын. Па-першае, народную культуру беларусаў Машыньскі ведаў значна лепш, чымсьці культуру іншых славянскіх народаў (з'яўляецца ён, між іншым, аўтарам кніжкі аб беларускім Палессі). А па-другое, Машыньскі лічыць, што беларуская народная культура захавала значна больш першабытных славянскіх элементаў, чымсьці культуры іншых славянскіх народаў.

(п)



Л. ВАРАБЕЙ Л. РАМАНЮК

# МІР НАМ ПАТРЭБЕН

ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VI КЛ.

## ГОРАД НА ДЗВІНЕ

Машыны спыняюцца каля заправачнай калонкі і становяцца ў доўгую чаргу.

Шафёры ўсміхаюцца і перадаюць адзін аднаму радасную навіну:

— А бензін наш, беларускі!

— Пабачым, які ён, — гавораць вадзіцелі, садзяцца ў толькі што запраўленыя машыны і едуць у розныя канцы рэспублікі.

На адной з іх едзем і мы ў Полацк, у самы старажытны горад Беларусі. Яму ўжо больш як 1100 год.

Побач з Полацкам расце новы горад, і завуць яго Нафтаград. Яго пачалі будаваць у ліпені 1958 года каля вёскі Слабада. А цяпер у гэтым маладым горадзе жыве некалькі тысяч маладых рабочых. Уздоўж Дзвіны ўзнімаюцца кварталы белых пяціпавярховых камяніц, у густым сасонніку стаяць светлыя палацы. У іх адпачываюць рабочыя. У горадзе два кінатэатры, дзве сярэднія школы, тэхнікум, чатыры дзіцячыя сады, тэхнічнае вучылішча, магазіны, майстэрні, пошта, спартыўныя пляцоўкі, летні тэатр. Пройдзе некалькі год, і Нафтаград злучыцца са старажытным Полацкам, стане буйнейшым горадам на Дзвіне.

Але самае галоўнае тут — гэта завод, які з нафты робіць бензін. Яго пабудавалі за чатыры гады на былым балоце, дзе раслі толькі мох, журавіны і нізкі хмызняк. Цяпер тут побач з высозным комінам стаіць белы корпус электрастанцыі, а далей — цэхі завода, лабараторыі; блішчаць на сонцы сотні металічных рэзервуараў*. У адны з іхналіваюць нафту, у другія — бензін. У бліжэйшы час Полацкі завод стане самым магутным у Еўропе, ён забяспечыць бензінам Беларусь, Літву, Латвію, Эстонію і суседнія вобласці Расіі.

Нафту пакуль што сюды прывозяць у вялікіх цыстэрнах па чыгунцы. Яе перакачваюць па трубах у высокія тэхналагічныя калоны. Доўгі шлях праходзіць нафта, пакуль стане бензінам, газаю, ліграінам, мазутам.

Але хутка з-за Волгі па шырокіх трубах, схаваных глыбока ў зямлі, нафта прыйдзе на Полаччыну, у цэхі першага беларускага нафтаперапрацоўчага завода. А ён усё расце і пашыраецца. Устанаўліваюцца новыя тэхналагічныя калоны і рэзервуары, будуюцца новыя печы і цэхі, пракладваюцца бетанаваныя дарогі і чыгуначныя пуці.

Хто ж гэта ўсё зрабіў за такі кароткі час? Савецкі ўрад вырашыў пабудаваць у Полацку нафтаперапрацоўчы завод. За работу ўзялася моладзь, камсамольцы Беларусі і іншых рэспублік.

На бераг Дзвіны, у вёску Слабада, адусюль пачалі прыязджаць хлопцы і дзяўчаты. Разам з імі сюды прыехалі і вопытныя будаўнікі, што аднаўлялі Мінск і Віцебск, Магілёў і Данбас.

Спачатку паставілі некалькі палатак, потым пачалі будаваць першыя баракі, з дошак збілі сталовую і ларок*. Камсамольцы вучыліся бетанаваць падмуркі, класці з цэглы сцены, тынкаваць і фарбаваць іх, крыць дахі.

Многія маладыя рабочыя днём будавалі горад і завод, а ўвечары ішлі на заняткі ў палітэхнікум і ў сярэднюю школу, некаторыя вучацца завочна ў інстытутах Масквы і Мінска.

Цяпер завод пабудаваны, першая чарга яго ўступіла ў строй. А былыя бетоншчыкі і муляры скончылі вучыцца і сталі тэхнікамі, інжынерамі і цяпер працуюць у цэхах свайго завода. Куды ні зірнеш, вырастаюць новыя дамы і карпусы завода, укладваюцца трубы, ставяцца велізарныя рэзервуары, асфальтуюцца новыя дарогі.

Завод працуе ўдзень і ўночы. Чуваць, як прыбываюць цягнікі з нафтаю, а з Полацка адпраўляюцца эшалоны з бензінам.

А завод і горад нафтавікоў растуць, пашыраюцца і прыгажэюць.

**Сяргей Грахоўскі**

1. Як выглядае новы беларускі горад на Дзвіне?
2. Які завод пабудаваны ў Нафтаградзе? Раскажыце пра яго значэнне для краіны.
3. Хто будаваў горад і завод?
4. Дзе падобны завод пабудавалі ў нашай краіне?

**Слоўнік**

Рэзервуар — пасудзіна (бак, балон, басейн) для вадкасцей і газаў.

Ларок — гандлёвая палатка, кіёск.




### АСВЕТА І КУЛЬТУРА

Узровень асветы на Беларусі быў вельмі нізкі. Царскае самадзяржаўе гамавала пашырэнне адукацыі сярод беларускага працоўнага люду. Яно ведала, што цёмны і адсталы народ лягчэй падпарадкуецца царскаму панаванню. Школаў было вельмі мала і знаходзіліся яны ва ўладзе духавенства і манастыроў. У іх зашчаплялі дзецям пагарду да свае роднай беларускай мовы і культуры. Беларуская мова не была дапушчана ні ў школы, ні ў дзяржаўныя ўстановы, а цар Мікалай I забараніў нават ужываць слова «Беларусь». Царскім загадам быў зачынен Віленскі універсітэт, дзе раней вучылася шмат выхадцаў з беларускіх зямель.

Аднак нават ва ўмовах жорсткага прыгнёту беларускі народ развіваў сваю культуру.

Асабліва буйна развівалася вусная народная творчасць: песні, казкі, легенды. У іх гаварылася пра жудасны лёс прыгоннага сялянства і салдатаў-рэкрутаў, выражалася народная ненавісць да прыгнятальнікаў і ўслаўляліся гераічныя ўчынкі народных мсціўцаў-асілкаў.

Царызм забараніў друкаванне твораў на беларускай мове. Аднак гэта не спыніла развіцця беларускай мастацкай літаратуры. Пісьменнікі пісалі гутаркі, вершы і паэмы і распаўсюджвалі іх у рукапісах. Свае прозвішчы яны затойвалі або падпісвалі творы псеўданімамі.

Найбольш выдатнымі былі гутаркі: «Вось цяпер які люд стаў», «Размова пана з хлопам», «Гутарка Данілы са Сцяпанам». У іх апавяданне вядзецца ад імя селяніна, які скардзіцца на свой цяжкі лёс, несправядлівасці ўрада, прыгнёт панамі і чыноўнікамі і спадзяецца паляпшэння сваёй долі.

У вершах «Праўда», «Багач», «Сірацінка» гаворыцца аб прыгонніцкіх парадках, пакутах бедных людзей, гаротнай долі сіраты.

Самымі значнымі творамі беларускай літаратуры таго часу былі сатырычныя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Невядомыя аўтары расказваюць у іх аб жыцці розных слаёў насельніцтва Беларусі, усхваляюць маральныя якасці простага селяніна і высмейваюць паводзіны паноў-прыгоннікаў.

Вялікі ўклад у развіццё беларускай літаратуры, тэатра і асветы ўнёс Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Ён напісаў словы да першай беларускай камічнай оперы «Сялянка». У ёй пісьменнік высмеяў лёгкадумнасць, пагарду да ўсяго роднага і захапленне памешчыкаў чужым, але прыхільна аднёсся да прыгоннага беларускага сялянства і спачуваў яму. Музыку да оперы склаў Станіслаў Манюшка — вядомы польскі кампазітар родам з Беларусі. Опера была паказана ў Мінску ў 1852 годзе. У ёй гучэлі беларускія народныя мелодыі, а акцёры выступалі ў беларускіх народных касцюмах.

Апрача оперы «Сялянка» Дунін-Марцінкевіч напісаў некалькі вершаваных аповесцей, як «Гапон», «Шчароўскія дажынкі», «Купала». У іх галоўнае месца адводзіцца жыццю і заняткам беларускага сялянства, яго абрадам і вуснай творчасці.

Вінцук Дунін-Марцінкевіч быў вялікім прыхільнікам пашырэння асветы сярод простага народа. Ён дамагаўся заснаўвання школ, у якіх навука адбывалася б на беларускай мове.

Шмат беларускай інтэлігенцыі таго часу цікавілася мінулым Беларусі і яе вуснай народнай творчасцю. Выдатны вучоны — гісторык Грыгаровіч вышукваў і друкаваў старажытныя дакументы з мінуўшчыны беларускага краю. Фалькларысты Чачот і Шпілеўскі запісвалі і публікавалі творы беларускай вуснай народнай творчасці.

Таленавітыя беларускія мастакі Вінцук Дмахоўскі і Нікадзім Сілівановіч стварылі цудоўныя карціны, у якіх знайшла адбітак прыгажосць беларускага краю і быт яго насельніцтва.

Прагрэсіўныя рускія пісьменнікі, як Аляксандр Герцэн і Мікалай Дабралюбаў, якія выступілі супроць царскага самадзяржаўя, нацыянальнага прыгнёту народаў і прыгоннага права, цікавіліся Беларуссю і спрыялі развіццю яе культуры і літаратуры. Прыхільна адносілся да беларускага народа і выдатныя польскія пісьменнікі Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Ігнат Крашэўскі. Яны паходзілі з Беларусі і шчыра спачувалі працоўнаму беларускаму люду. Беларуская вусная творчасць натхніла Адама Міцкевіча напісаць такія творы, як «Свіцязь», «Свіцязянка», «Курган Марылі», «Дзяды» і шэраг іншых.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ*

*1. Як развівалася асвета на Беларусі пасля ўз'яднання з Расіяй?*

*2. Як развівалася літаратура пасля ўз'яднання беларускіх зямель з Расійскай дзяржавай?*

*3. Раскажыце, што вы ведаеце аб творчасці Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.*

*4. Чым займаліся і што вывучалі Грыгаровіч, Чачот, Шпілеўскі?*

*5. Якіх вы ведаеце беларускіх мастакоў першай паловы XIX стагоддзя?*

*6. Як адносіліся да беларускага народа і яго культуры выдатныя рускія і польскія пісьменнікі?*

# ШТО, ДЗЕ, КАЛІ?

Са свірана Матвея Секана з вёскі Дубіны ў Гайнаўскім павеце нехта ўкраў сала і збожжа, разам на 1.700 злотых.

У вёсцы Гарчакі ў Сакольскім павеце ад выпітага дэнатурату памёр Станіслаў Касацкі. Было яму 28 год. Ад дэнатурату ў вёсцы Кнаразы памерла таксама 60-гадовая жанчына Эмілія Баранская.

Са школы ў вёсцы Махнатае на Гайнаўшчыне злодзей украў сталярскія прылады вартасцю ў 2.500 зл.

У выніку вобыску, які гайнаўская міліцыя правяла ў памяшканні Васіля Грыгарука з Новага Корніна ў Гайнаўскім павеце, знойдзены розныя тавары вартасцю ў 7.300 зл. — між іншым 24 скураныя кашалькі і партманеткі і 33 сцізорыкі. Паходжанне і прызначэнне гэтых тавараў Грыгарук не змог паясніць. Яго арыштавалі для высвятлення справы.

Яніна С., якой 30 год, з Гайнаўкі вечарам 28 снежня мінулага года вярталася дамоў з працы. На вуліцы Падольнай раптам падбег да яе нейкі мужчына, схапіў за галаву і перакуліў на зямлю. Хацеў знасілваць. Біў па твары. На шчасце, разбойніка спалохаў нейкі самаход. Справу высвятляе гайнаўская міліцыя.

**Асака**

(Працяг са стар. 1)

цы шляхам лепшага тэхнічнага абсталявання ўстаноў. Першыя дыскусіі паказалі, што няма сэнсу ва ўсіх грамадах ствараць установы жыллёвай гаспадаркі. Малыя ўстановы, дзе сума аплат за кватэры вельмі малая, не могуць плаціць за рамонты кватэр. Стварэнне ўстановы жыллёвай гаспадаркі ў грамадзе мае сэнс толькі тады, калі гадавы прыход з аплат за кватэры складае бе, папраўкі, выпісванне пасведчанняў, выданых за граніцай. А ўсе ж гэтыя справы могуць быць уладкаваны на месцы, у грамадскай радзе.

Іншы прыклад. Да гэтага часу ад рабочых-рамеснікаў патрабавалі прыкладаць да заявы пасведчання аб гаспадарцы. А вядома ж, што гэты факт можна сцвердзіць на падставе прадстаўленага ім палітычнага наказу або на падставе дапіскі на заяве, зробленай

# ГАЙНАЎСКІЯ ПРАПАНОВЫ

найменш 100 тыс. зл. Такой сумы, апрача Кляшчэляў, не мела ні адна грамада ў павеце. Значна больш ёсць сэнсу ў прапановах стварыць павятовыя ўстановы камунальнай і жыллёвай гаспадаркі з уласнай рамонтнай адзінкай.

Падобны сэнс мае і іншая прапанова: ліквідаваць раёны эксплуатацыі публічных дарог і павятовыя праўленні лакальных дарог і стварыць на іх месца адну ўстанову — павятовыя праўленні дарог. Раёны абымаюць сваімі граніцамі павятовыя шляхі адразу ў некалькіх паветах і не могуць хутка рэагаваць. Гэта вельмі выразна відаць зімою пры ачышчанні галоўных дарог ад снегу. Многа больш карысці для дарожнай гаспадаркі дала б адзіная ўстанова ў кіраванні і эксплуатацыі. Вядома, адпаведныя змены павінны былі б наступіць і ў ваяводстве.

У ходзе аналізу функцыянавання дзяржаўнай улады на ўзроўні грамады і павета сцверджана, што з-за дрэнных прадпісанняў ці прынятай практыкі грамадзянін вымушаны доўга вандраваць са сваімі клопатамі па розных установах. Так, напрыклад, у грамадска-адміністрацыйны аддзел Прэзідыума ПРН трэба было ехаць па такія паперкі, як аднаўленне пасведчання аб шлю- павятовым геадэзійным бюро або Прэзідыумам ГРН.

У ваяводстве будуць вырашаць, якая з гэтых прапаноў будзе прынята. Але і сама павятовая рада бачыць магчымасці змяншэння вандровак грамадзян. Вось, напр. пры лепш скаардынаванай працы фінансавага аддзела і павятовага бюро геадэзіі грамадзянін, якога выклікаюць у справе бясплатнага набыцця праў маёнтку, можа за адзін дзень уладкаваць усе фармальнасці. Папросту геадэзійнае бюро атрымае з фінансавага аддзела спісак выкліканых людзей і заўчасна падрыхтуе для іх патрэбныя дакументы.

У працы па паляпшэнню адміністрацыі таварышы з Гайнаўкі шмат увагі прысвяцілі не толькі функцыянаванню ўстаноў у самым павеце, але таксама ўмовам іх працы.

Прынята між іншым шмат прапаноў па ўпрашчэнню працы бюро ГРН. Рэалізацыя вышэй прыведзеных прапаноў несумненна будзе спрыяць паляпшэнню працы органаў адміністрацыі Гайнаўскага павета.

Старшыня Прэзідыума
Гарадской рады нарадовай
у Гайнаўцы
**Кастусь Ляшчынскі**

# ПРА АДНЫХ БАЦЬКОЎ

У Пачатковай школе № 3 у Бельску (беларускай) існуе бацькоўскі камітэт, які вядзе шырокую дзейнасць. Зрэшты, працуе тут не толькі камітэт, але наогул бацькі ўключаюцца да пачынанняў школы. Актыўнасць бацькоў праяўляецца не толькі ў дапамозе школе ў арганізацыі рознага тыпу ўрачыстасцей і мерапрыемстваў, але і ў зацікаўленасці выхаваўчымі справамі.

Бацькі наведваюць памяшканні слабейшых вучняў. Па колькі гэта школа пачатковая і няма тут нанятых кватэр, у асноўным размаўляюць з бацькамі данага вучня. Спраў ёсць многа, таму што ў школе № 3 большасць — гэта дзеці гарадскія, якія паходзяць з розных сем'яў і прыносяць розныя выхаваўчыя цяжкасці. Можа сапраўды ў гэтым напрамку спецыяльных адкрыццяў няма, але тое, што робяць бацькі, здаецца быць вельмі карысным і школе і дзецям. Адзін з прыкладаў. У школе быў вучань, якога міліцыя злавіла на крадзежах у горадзе. Над хлопцам адбываліся суды. Справай зацікавілася класная «тройка» бацькоў. Пасля доўгіх, часта непрыемных, размоў з бацькамі хлопца, суседзямі і ўладамі «тройка» дайшла да вываду, што ў дрэнных паводзінах хлопца вінаваты яго бацькі. Такім чынам дайшло да агульнага сходу бацькоў класа, у якім вучыўся пакараны хлопец. Разгарнулася бурная дыскусія, у выніку якой бацька гэтага хлопца, можа не столькі прызнаўся, колькі зразумеў сваю віну ў гэтай справе. Смела можна сцвердзіць, што бацькі самі змаглі пераканаць чалавека, якога не мог пераканаць у яго віне нават суд.

Бацькоўскі камітэт пачатковай беларускай школы развівае таксама і матэрыяльную дзейнасць. З добраахвотных складчын, напрыклад, частку грошай камітэт прызначае на дапамогу для сірот і надта бедных, занядбаных дзяцей. «Шклянка гарачага малака і рагалік» гэты лозунг поўнасцю рэалізаваны ў школе. Усе 392 вучні ў час доўгага перапынку атрымліваюць рагалік і кубак малака ці кавы з малаком. Але не толькі. Што 2 тыдні з мукі, якую атрымоўвае школа, бацькі пякуць усім дзецям пончыкі.



**На здымку: У час доўгага перапынку.**

Фота аўтара

Нямала працы ўложана і яшчэ уложыцца пры пабудове, супольна з ліцэем, школьнай спартыўнай пляцоўкі.

А. К.

 

## ДЗЕ САМАЯ ВЯЛІКАЯ ПІРАМІДА СВЕТУ?

За сто кіламетраў ад мексіканскай сталіцы Мехіка, у раёне заселеным на працягу ўжо больш трох тысяч гадоў, экспедыцыя мексіканскіх вучоных пад кіраўніцтвам Мігуэля Месмахера выявіла гіганцкую піраміду, якая лічыцца цяпер самай вялікай пірамідай у свеце. На самай справе, вышыня піраміды Чалула (мястэчка, дзе размешчана «знаходка») дасягае 60 м., кожны бок яе асновы складае 300 м. Акружаная чатырма пірамідамі меншых памераў і іншымі збудаваннямі, яна ўзвышаецца на месцы, якое, як відаць, прызначалася ў гістарычную эпоху для правядзення абрадаў. Мексіканскі ўрад праектуе ператварыць гэту вобласць у турысцкі цэнтр.

Напомнім, што вялікая егіпецкая піраміда ў Гізэ, вяршыня якой дасягае каля 137 м, ля асновы значна менш. Даўжыня рабра яе фундаменту — каля 220 метраў.

## Мадэль жывога мозгу

Як пабудаваць, і ці наогул можна, машыну, якая б дзейнічала так, як людскі мозг? Гэтыя пытанні даўно ў думках вучоных. Аказваецца, што такую машыну пабудаваць можна. Горш адказаць на пытанне як яе пабудаваць.

Адным з вучоных, якія намераны сабраць даныя для кібернетыкаў на пабудову мадэлі жывога мозгу, з'яўляецца прафесар Аляксандр Каган з Растоўскага універсітэта. Вось што ён думае аб гэтым:

— Сённяшнія матэматычныя машыны, якіх завуць «электрычнымі мозгамі», выконваюць шэраг складаных заданняў, напрыклад, кіруюць касмічнымі палётамі, працэсамі, якія заходзяць у атамных рэактарах і т.д. Каб кібернетычныя машыны маглі рашаць цяжэйшыя заданні, неабходна ўскладніць самую машыну. Вось тут перад канструктарамі паяўляюцца пэўныя бар'еры, на першы погляд немагчымыя да пераадолення. Справа ў тым, што асноўныя элементы матэматычных машын, беручы пад увагу размер, вагу і спажыванне энергіі, у мільёны разоў большыя ад нервовых клетак, якія маюць нагадваць. Апошнім часам мікраэлектроніка дабілася вялікіх поспехаў у пабудове надта складаных кібернетычных машын. Усё ж цяжкасці застаюцца далей: чым больш элементаў мае машына, тым больш падманлівая. Праблема надзейнасці машыны з'яўляецца зараз асноўнай перашкодай ва ўдасканаленні «электронных мозгаў». Але і гэтую перашкоду пераадолеем.

(а-ка)

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## НЕГРЫЦЯНСКІЯ паўстанні

Астатняе паўстанне неграў у Злучаных Штатах Амерыкі (ЗША) толькі на першы погляд нечаканае, неспадзяванае. Узброеная барацьба неграў у Амерыцы адбываецца здаўна, і будзе яна ўзмацняцца з кожным годам, што апошнім часам, здаецца, разумее нават сам прэзідэнт ЗША Ліндан Джонсан. Бо чым хутчэй багацее Амерыка, тым бяднейшыя ў ёй беспрацоўныя, найчасцей негры.

У Нью-Йорку ёсць такі гарадскі квартал — Гарлем, дзе пражываюць амаль усе негры гэтага вялізнага горада. 64 працэнты мужчынскага насельніцтва Гарлема — гэта некваліфікаваныя рабочыя і хатняя служба. Тут вялікае беспрацоўе. Усяго толькі кожны пяты жыхар Гарлема мае сярэднюю адукацыю і кожны дваццаты — вучыцца ва універсітэце. Адзінымі месцамі працы ў Гарлеме з'яўляюцца цырульні, пральні, крамы — большых фірмаў і фабрык амаль няма. Мала будуецца новых дамоў.

Гарлем з'яўляецца такім чынам найбольшым у свеце негрыцянскім гетам. Бесперспектыўнасць гарлемскага жыцця ў вельмі багатым наогул Нью-Йорку нараджае сярод тутэйшых неграў баявыя і гнеўныя настроі.

Наспявае паўстанне. Апошняе слова належыць да асобы, якая называецца «Бампі» Джонсан. Сярод мноства розных тайных негрыцянскіх арганізацый, пасвараных паміж сабою, «Бампі» пануе непадзельна. Паліцыя добра ведае, што «Бампі» Джонсан з'яўляецца найбольш магутным негрыцянскім гангстэрам Амерыкі. Сам «Бампі» лічыць сябе «чорным нацыяналістам».

У 1950 годзе, калі прагрэсіўнага негрыцянскага спевака Поля Робсана акружыў шматтысячны натоўп белых расістаў, «Бампі» ўзяў сотню ўзброеных кулямётамі сваіх людзей, разагнаў расістаў і вывез Робсана ў бяспечнае месца.

Калі на пачатку ліпеня мінулага года натоўп негрыцянскіх баявікоў акружыў камісарыят паліцыі ў Грынвіч-Віладжы, разышліся чуткі, што добра ўзброеныя члены італьянскай «мафіі» ў Нью-Йорку збіраюцца атакаваць дэманструючых баявікоў. «Бампі» перадаў тады кіраўніцтву «мафіі»:

«Калі хоць адзін з гэтых хлопцаў будзе паранены, не гарантую бяспечнасць ні аднаму з членаў «мафіі» ў Гарлеме»

Баявікоў не атакавана, іх дэманстрацыя адбылася ўдала.

Кожнаму, абзнаёмленаму з гістарычнымі фактамі, ясна, што негрыцянскі рух у Амерыцы мацнее і шырыцца. Выдатны сацыёлаг Кенет Клерк заўважае:

«Трэба падкрэсліць, што ў тых асяроддзях, дзе негры падымаюць бунт, каб пратэставаць і рэагаваць супраць расавай несправядлівасці, злачыннасць занікае амаль зусім у перыяд дэманстрацый».

Шматлікія банды маладых забіякаў і хуліганаў пераўтвараюцца ва ўзброеныя сілы тайных негрыцянскіх арганізацый. У гэтыя банды ўступае дух ідэі барацьбы за інтарэсы ўсяе грамадскасці, чаго нельга не лічыць пазітыўнай з'явай у агульначалавечым сэнсе.

У супрацьлегласць да Амерыкі негрыцянскі рух у Паўднёвай Афрыцы перажывае выразны, дакладней кажучы, трагічны крызіс. Часта даходзіць там да братазабойчых узаемных змаганняў паміж негрыцянскімі вызваленчымі сіламі — нярэдка адны на другіх сакрэтна даносяць белай паліцыі. Негрыцянскія патрыятычныя і нацыяналістычныя сілы, напрыклад, у Радэзіі — і не толькі ў Радэзіі — не маюць падтрымкі сярод залішне перапалоханага паліцэйскім тэрорам мясцовага негрыцянскага насельніцтва, якое выдае сваіх партызанаў-барацьбітоў у рукі радэзійскай службы бяспекі. Вызваленчы рух неграў у партугальскіх калоніях фактычна перастае быць істотным. Прычына таго таксама і ў тым, што ўжо толькі нямногія афрыканскія краіны аказваюць падмогу гэтаму руху. Конга-Кіншаса, занятае сваімі ўнутранымі цяжкімі справамі, зусім не памагае паўстанцам у суседняй партугальскай Анголе. Замбія забараніла антыпартугальскую дзейнасць на сваёй тэрыторыі. Замбійскі ўрад Каўнды энергічна заявіў, што не аказвае ніякай дапамогі негрыцянскаму руху ў Радэзіі. Ба, гавораць нават, што замбійскія ўлады і сам прэзідэнт Каўнда тайна паведамляюць радэзійскую паліцыю аб планах паўстанцаў, якія ўсё яшчэ стараюцца знайсці апору ў негрыцянскай Замбіі. Скажам, год таму назад такія ўчынкі (даносы) негрыцянскіх палітыкаў не мясціліся ў іх галовах. Цяпер гэта амаль натуральнае.

Справа ў тым, што негрыцянскія краіны Афрыкі не змогуць уласнымі сіламі развіць сваю гаспадарку і, каб утрымацца, ліхаманкава шукаюць магчымасцей прыплыву замежных капіталаў і інвестыцый м. ін. з суседняй багатай Радэзіі і Паўднёваафрыканскай Рэспублікі. Толькі пасля таго, калі афрыканскія краіны свой дзяржаўны быт умацуюць на салідных гаспадарчых падставах, абяцаюць узнавіць дапамогу негрыцянскім паўстанцам у расісцкіх калоніях і калоніях «чорнай» Афрыкі. Хутчэй за ўсё трэба спадзявацца, што сітуацыя не палепшае да часу выразнага ўзмацнення капіталавых магчымасцей сацыялістычнага лагеру, які штораз мацней, у меру сваіх магчымасцей дапамагае слабаразвітым краінам пазбягаць імперыялістычнага шантажу з боку багатага Захаду. (С.Я.)



З трагічных дзён грамадзянскай вайны ў Нігерыі.




Пакінуўшы рэзідэнцыю Гітлера, Канарыс сеў у машыну і загадаў шафёру:

— На Аляксандэрпляц.

Рушылі. Шафёр даўно працаваў з кіраўніком абвера, ведаў яго звычкі. Атрыманы загад азначаў: перш чым вярнуцца ў галоўную кватэру ваеннай разведкі, якая была на Цірпіцуферы, шэф правядзе гадзіну — другую ў адным з утульных кафе, якіх шмат у раёне цэнтральнай плошчы Берліна.

Машына пад'ехала да Аляксандэрпляца. Канарыс падняў трысціну і дакрануўся ёю да пляча шафёра. Той пад'ехаў да тратуара, спыніў матор і выскачыўшы першы з кабіны, адчыніў дзверцы.

—Адпраўляйцеся. — Канарыс кіўнуў на кафе з паласатымі маркізамі на вітрынах: — Я буду тут.

Сядаючы за руль, шафёр бачыў: адмірал не спяшаючыся накіроўваецца да кафе.

Машына скрылася за паваротам. Тады Канарыс, сачыўшы за ёю вуглом вока, павярнуў і пайшоў уздоўж тратуара. У кароткім, шырокім паліто, модным у той час, ён нічым не адрозніваўся ад тысяч берлінцаў, ідучых вуліцамі германскай сталіцы.

Паказалася таксі.

Канарыс падняў трысціну, падзываючы машыну.

Паездка была доўгай — таксаматор перасякаў велізарны горад. Канарыс сядзеў бледны ад хвалявання. Тое, што здарылася ў кабінеце Гітлера, здавалася незразумелым. Вылажыўшы на стол фюрэра здабытыя фатаграфіі, ён быў перакананы, што дзейнічае напэўна. І раптам — такі паварот! Канарыс уздыхнуў і адкінуўся на аўтамабільным дыване. Такім чынам, фюрэр аддаў перавагу лятаючым тарпедам. Што ж, быць можа, яму відней. Хоць трэба было б выкарыстаць і тое, і гэтае...

Таксі зраўнялася са станцыяй прыгараднага электрацягніка. Пасажыр вылез, заплаціў шафёру і накіраваўся да станцыйных кас. Тут ён спыніўся, разглядваючы расклад цягнікоў.

Ён чакаў, каб ад'ехала таксі.

А шафёр, якому не хацелася вяртацца парожняком, марудзіў. Урэшце, упэўніўшыся, што ў гэтым рабочым раёне пасажыра не знойдзе, паехаў.

Тады Канарыс пайшоў у напрамку цямнеючага на гарызонце лесу. Ён не зрабіў і сотні крокаў, як каля яго затрымаўся старэнькі «опель». Дзверцы адчыніліся. Канарыс сеў у машыну, і «опель» бадзёра пабег па дарозе.

Сонца хілілася да гарызонта, калі «опель» выехаў на бераг вялікага возера. Каля драўлянай прыстані гойдаўся кацер. У ім сядзеў чалавек у шэрым світры, спартыўных нагавіцах і круглай вязанай шапачцы.

Гэта быў Артур Абст.

Убачыўшы аўтамабіль, ён сарваўся з месца, дапамог Канарысу перабрацца на борт судна.

— Спадзяюся, усё добра? — спытаў ён, уключыўшы матор.

Канарыс паківаў галавой, адвярнуўся.

Абст вывеў кацер на чыстую ваду і ўзяў курс да далёкай лясістай выспы.

— Што ж усё-такі здарылася? — спытаў ён.

Канарыс пачаў расказваць аб нядаўняй аўдыенцыі.

Яшчэ ў першую сусветную вайну, калі малодшы афіцэр разведкі германскага ваенна - марскога флоту Вільгельм Канарыс ствараў на ўзбярэжжы Афрыкі тайныя базы забеспячэння германскіх падводных лодак, разам з ім працаваў таксама мацёры разведчык і дыверсант Эган Манфрэд Абст. Потым яны разам працавалі ў Іспаніі. Але тут шчасце здрадзіла Абсту. У час адной аперацыі паблізу Гібралтара англійскія вартавыя падстрэлілі яго. Перад смерцю Менфрэд Абст даручыў Канарысу клопаты аб сваім малалетнім сыне Артуры.

Так лёс злучыў гэтых людзей. Канарыс наглядаў за Артурам Абстам, пакуль той вучыўся ў ліцэі, а затым вывучаў медыцыну ва універсітэце Кельна.

Абста адрознівала энергія, назіральнасць. Ён ведаў некалькі моў, дасканала плаваў, страляў, праяўляў музычныя здольнасці.

1935 год Вільгельм Канарыс сустрэў на вельмі адказнай пасадзе ў новаарганізаванай ваеннай разведцы трэцяга рэйха. Ад гэтага часу пачынаюцца і самастойныя крокі Артура Абста, цяпер ужо маладога медыка і афіцэра разведкі.

Уласна кажучы, дэб'ют Абста быў і дэб'ютам абвера. Службе Канарыса было загадана арганізаваць мяцеж супраць урада Іспаніі, стварыць умовы для ваеннай інтэрвенцыі ў гэту краіну, скінуць кабінет Кабальера і паставіць свайго чалавека.

Кіраўнік абвера асабіста распрацаваў дэталі цяжкай справы. Падбіраючы кандыдата на пасаду будучага іспанскага дыктатара, Канарыс прыпомніў старога знаёмага, афіцэра каланіяльных войск Іспаніі Францыска Франка, чала-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДАБРАДЗЕЙСТВЫ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ

Электрыфікацыя вёскі Лука адбылася ў 1960 годзе. Памаленьку сяляне навучыліся выкарыстоўваць электрычны ток. Хто залажыў электрычны рухавік, хто купіў радыёпрыёмнік, а хто электрычную плітку і, вядома, прас. Дабрадзействы электрычнасці сяляне Лукі выкарысталі асабліва ў мінулым годзе многа. Пайшла мода на электрычныя сціральныя машыны, парнікі да варэння бульбы і тэлевізары.

**Чарот**

## ГС-ы і ДФЗ

У снежані 1963 года Галоўнае праўленне Цэнтральнай рады спулдзельчасці (ЦРС) прыняло пастанову адносна таго, каб ГС-ы таксама прыступілі да загаспадароўвання зямельных угоддзяў з Дзяржаўнага фонду зямлі. Згодна з пастановай, ГС-ы абавязаны развіваць тыя галіны сельскагаспадарчай прадукцыі, якія маглі б быць непасрэдна выкарыстаны на пакрыццё патрэб крамаў. гастранамічных перапрацоўчых прадпрыемстваў. У мінулым годзе спулдзельчасць забеспячэння і збыту абрабляла ў нашай краіне 177 гаспадарак. Найбольш іх, бо 29, у Кашалінскім ваяводстве, а найменш у Беластоцкім — 12. Лік гэты малаваты ў параўнанні да патрэб нашай Беласточчыны. Спулдзельчасць забеспячэння і збыту мае зараз 281 прадпрыемстваў будаўнічых матэрыялаў. У гэтым ліку 255 бетонных прадпрыемстваў і 23 цагельні.

Вельмі шкада, што ГС-ы на Беласточчыне вельмі слаба ўключаюцца ў арганізаванне так патрэбных будаўнічых прадпрыемстваў.

**МХ.**

## НАБРАЛІ Ў РОТ ВАДЫ

Ужо 9 год Ян Казберовіч служыць солтысам у вёсцы Скупава. Людзі на яго наракалі, што дрэнна выконвае свае абавязкі, што цяжка застаць яго ў хаце, каб заплаціць падатак, што за яго кадэнцыяў не ладзіліся дарогі і г.д.

25 лістапада 1967 года адбываліся выбары. Прыехалі прадстаўнікі з Грамадскай рады нарадовай у Нараўцы і з ГС-у. І о дзіва, у гэты час усім пазатыкала, быццам усе панабіралі ў рот вады. Адзін толькі Ян Дрозд сказаў некалькі слоў супраць былога солтыса, але ніхто Дрозда не падтрымаў. Відавочна баяліся, ці саромеліся ў вочы сказаць, што думаюць. І вось у тайным галасаванні найбольш галасоў атрымаў былы солтыс, Ян Казберовіч. І тады пачаўся шум. Сталі гаварыць, што камісія адкінула галасы іншых кандыдатаў, што падрабілі колькасць галасоў для Казберовіча. І так, людзі падзяліліся ў вёсцы на дзве групы: адны за, а другія — супраць солтыса. А так па праўдзе сказаць, што яшчэ не нарадзіўся такі чалавек, каб усім дагадзіў.

**Жыхар са Скупава.**

## ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ

У «Ніве» № 53 (618) з дня 31.XII.67 г. змешчаны мой артыкул п.з. «Салдат вялікіх дзён». Тут я заўважыў памылку. Ян Баршчэўскі нарадзіўся не ў 1915 годзе, а ў 1902 годзе. У 1915 годзе ён выехаў з бацькамі ў бежанства.

**М. П.**

## Сардэчныя тайны

**Дарагое Сэрцайка!**

Жыву я на вёсцы ў Гайнаўскім павеце. Пазнаёмілася я з дзяўчынай, з якой мы разам працавалі. Мы пасябравалі. Аднаго разу мы сустрэліся з хлопцамі з вёскі Л. Сяброўка мяне пазнаёміла з імі. Нядоўга мы з імі гаварылі, бо мелі свае справы. З намі пайшоў аднак маёй сяброўкі брат. Калі мы залатвілі свае справы, сяброўка і яе брат адвялі мяне на станцыю, і я паехала дамоў.

Доўгі час я не бачыла яе брата. Аднак сяброўка мне гаварыла, што я падабалася яе брату і ён хоча бліжэй са мной пазнаёміцца. Аднак я не верыла. Да мяне ездзіў хлапец з суседняй вёскі. За нейкі час у нашай вёсцы быў фэстын і я запрасіла сяброўку з яе братам у госці. Прыехалі яны абое. На забаве я цэлы час гуляла з братам сяброўкі.

Ад гэтага часу ён пачаў часцей прыязджаць да мяне. А людзі пачалі ўсяляк пляткаваць мне на яго, аднак я ў гэта не верыла і не хацела слухаць. Потым пачалі ўсяляк пляткаваць на мяне яго бацькам. Аб гэтым усім сказала мне сяброўка (яна вельмі для мяне добрая).

І калі ён прыехаў адным разам да мяне, я была вельмі сумная. Сказала аб усім яму, а ён сказаў, што я не павінна слухаць плётак, як і ён іх не слухае, і што ён мяне кахае і не думае пакідаць.

Аднак я вельмі пераймаюся тым, што брыдка гавораць на мяне яго бацькам Парай, Сэрцайка, што рабіць, ці кінуць М., і вярнуцца да таго хлопца, які ездзіў перад ім да мяне, ці верыць М. А мо, калі прыедзе, пагаварыць з ім на гэтую тэму, што людзі выдумляюць?

Лена з Гайнаўскага пав.

**Дарагая Лена!**

Раю табе не звяртаць ніякай увагі на плёткі і не гаварыць аб плётках абсалютна з М. Так жа ж табе і сказаў М., які мае слушную рацыю. З лісту відаць, што твой хлапец талковы і гэта павінна цябе радаваць.

Жадаю ўсяго найлепшага.

**Сэрцайка**

## СОЛЬ — НЕ ПІВА...

Ужо традыцыйна да калядных святаў рыхтуюцца людзі на вёсцы. Амаль кожны гаспадар стараецца закалоць парсюка, зарэзаць цяля, а ў найгоршым выпадку барана. У сувязі з гэтым перад калядамі ўзрастае запатрабаванне на соль.

Вось і мне перад святамі трэба было шмат солі. Пайшоў я да сваёй крамы ў Белках. А дзе там. Як заўсёды, цэлымі днямі, і нават тыднямі закрытая крама.

Ну што ж, запрог каня і падаўся ў Нарву. Думаю сабе: дзе як дзе, але ўжо ў Нарве солі хватае. Дарма я так думаў. Ужо соль там раскупілі. Тады паехаў у Агароднікі. Прадаўшчыца адказала, што будзе соль за тыдзень.

— Не буду ж я тыдзень часу чакаць. Мне ўжо трэба саліць мяса, — адказаў ёй са злосцю.

І так вымушаны ехаць далей у пошуках солі. Заязджаю ў Пухлы. А прадаўшчык мне кажа:

— «Няма солі і не будзе. Знаеш даражэнькі, — не аплочваецца прывозіць. За мяшок солі я маю толькі паўтара злотых даходу. Вось каб піва, дык прывозіў бы я кожны дзень. І людзям добра, а мне яшчэ ляпей.

— А каб вас д'ябал пабраў, бяздушныя зладзеі вы, — падумаў я і, скрывіўшыся, паехаў у Цялушкі, што ў Бельскім павеце.

І на дзіва, тут солі — колькі хочаш. Ды прадаўшчыца ветлівая, сочыць за чысцінёй. У краме проста прыемна пастаяць. Яна нават не верыць. што ў іншых крамах не было солі і што прадаўцы не стараюцца ведаць, калі на нейкі прадукт будзе большае запатрабаванне сялян. Тут адчуваецца ва ўсім культура ў гандлю. А вось гэтай культуры ў гандлю і культуры асабістай так многім прадаўцам не хапае. Калі ж павядзецца вострая барацьба з гэтым нецярпімым бескультур'ем?

**Ярош**
Гайнаўскі павет

## МІКАЛАЙ СКЕПКА

Мікалай Скепка сем гадоў працуе старшынёю ГРН у Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет). За гады яго працы ў ГРН, у вёсках грамады многа змянілася і змяняецца на лепшае. Зніклі саламяныя стрэхі, іх заступае чарапіца. Праведзена электрычнае святло. Павялічылася жывёлагадоўля. А сяляне ўсё больш пачалі карыстацца мінеральнымі ўгнаеннямі і вапнаваць зямлю. Сеюць яны ўжо толькі сеялкамі. Арганізавалася 5 сельскагаспадарчых гурткоў, якія працуюць рэнтабельна і маюць 3 трактары.

ГРН у Ляўкове штогод будуе па 2 км дарог. Дарогі абсаджаны дрэўцамі. У 1966 г. пайшоў аўтобус праз Ляўкова да Сушчы (Беластоцкі павет), які спалучае яе з Гайнаўкай. Ад лютага 1966 года ГРН у Ляўкове мае сваю зернедрабілку, якая дае значныя даходы і абслугоўвае сялян з усіх навакольных вёсак. На пачатку 1968 года ў вёсцы Старое Ляўкова адкрыецца спулдзельня здароўя для ўсіх грамадзян.

Новы будынак для спулдзельні здароўя пабудуе ПЗГС у Гайнаўцы. Пляц ужо ёсць, а і план пад будову хутка будзе гатовы. У стварэнні спулдзельні шмат намаганняў улажыў старшыня М. Скепка. ГРН у Ляўкове дбае аб школах у сваёй грамадзе. Праводзіць неабходныя рамонты, а тым самым актыўна ўключаецца да лепшай рэалізацыі праграмы новай 8-мігадовай школы. Мікалай Скепка ўжо 16 гадоў з'яўляецца членам ПАРП і вядзе ідэалагічную працу ў новаляўкоўскай партыйнай арганізацыі.

Тэкст і фота: Янка Цялушэцкі
Новае Ляўкова

## АПОШНІЯ МАГЧЫМАСЦІ

Яшчэ ёсць на нашых вёсках людзі малодшага пакалення, якія не маглі з тых ці іншых прычын закончыць пачатковай школы. Вось для такіх яшчэ і ў гэтым годзе створаны магчымасці вучыцца на вечаровых курсах або здаваць упрошчаныя экзамены экстэрнам.

Такі пункт экстэрнісцкіх экзаменаў за пачатковую школу створаны ў вёсцы Патока Беластоцкага павета. Тут рыхтуецца да экзамену каля 20 чалавек.

(М.С.)

---

века рашучага, які ў свой час нядрэнна папрацаваў у Паўночнай Афрыцы на карысць Германіі.

Артур Абст і атрымаў заданне адшукаць Франка і дагаварыцца аб усім з ім. Праявіўшы цуды аператыўнасці, Абст дасканала выканаў заданне. Цяпер Канарыс мог уводзіць у дзеянне дакладна падрыхтаваны план «Руге» (спакой — рэд.). І 18 ліпеня 1936 года радыёстанцыя ў Сеуце перадала ў эфір дзіўную фразу: «Над усёй Іспаніяй неба чыстае». Гэта быў сігнал, па якому Іспанія залунала ў агні.

Кацер падыходзіў да выспы, калі Канарыс закончыў расказваць аб тым, што здарылася ў кабінеце Гітлера. Абст слухаў з асаблівай увагай. Менавіта ён і быў тым разведчыкам, які здабыў фатаграфіі італьянскіх падводных плыўцоў і вадзіцеляў кіраваных тарпед.

Кацер спыніўся. Яны выйшлі, падняліся на горку, абмінулі прасеку ў густым сасновым бары і апынуліся перад прысадзістым домам — на першы позірк звычайнай дачай. Аднак, прыглядзіўшыся, можна было прыкмеціць замаскаваныя ў карчах пасты аховы.

Ахоўваўся і дом, і выспа, ды і самое возера. Поўным гаспадаром усяго гэтага быў Артур Абст. На выспе была яго лабараторыя, зашыфраваная індэксам «1—W—1». Сюды з розных клінік краіны дастаўляліся псіхічнахворыя, над якімі Абст праводзіў доследы. Падбіраліся кліенты, якія не мелі сваякоў і блізкіх. Аднак галоўнае заданне нічога супольнага з медыцынай не мела: тут Абст рыхтаваў групу падводных разведчыкаў і дыверсантаў.

Фатаграфіі, якія Канарыс паказаў Гітлеру, былі зроблены мінулым летам. Менавіта тады Абст прабраўся ў раён сакрэтнай базы італьянскіх падводных плыўцоў. З унікальнымі здымкамі Абст пaспяшаўся да свайго патрона: іх трэба неадкладна паказаць фюрэру. Але Канарыс думаў інакш. Ён вырашыў, што фюрэр можа пачакаць. Сам жа Канарыс не пачаў траціць часу. Тут, на выспе, спешна была створана спецыяльная група на чале з Абстам, якая павінна была скапіраваць апаратуру італьянцаў і падрыхтаваць першую партыю германскіх «людзей-жаб».

Праца ў «1—W—1» закіпела. Неўзабаве доследныя экземпляры тарпед былі створаны, група падводных плыўцоў падрыхтавана. Цяпер можна было ісці да Гітлера. Канарыс думаў: у кабінеце фюрэра ён пачне з італьянскіх фатаграфій. А ўжо потым, калі фюрэр пачне лютаваць над камандваннем флоту, — ён, Канарыс, паложыць галоўны козыр: раскажа аб Абсце і яго групе. Але, як вядома, справа пайшла інакш, і Канарыс павінен быў дзякаваць Богу за тое, што не паспяшаўся з дакладам аб дзейнасці лабараторыі «1—W—1».

(Працяг за тыдзень)

---

# КІНО

**Праграма на 23—28.I.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
,,Szare kaczątko'' (radz.), 23—24. ,,Kamo znany osobiście'' (radz.), 25—26. ,,Kamo niebezpieczna misja'' (radz.), 27—28.

**Кляшчэлі**
,,Na tropie policjantów'' (angl.), 23—24. ,,Tyle wierności na nic'' (węgierski), 25—26. ,,Katastrofa'' (polski), 27—28.

**Дубіны**
,,Dialog'' (węg.), ,,Sam pośród miasta'' (polski), 27—28.

**Нараўка**
,,Partyzanckim szlakiem'' (jugosł.), ,,Wojenka, wojenka'' (polski), 24—28.

**Нарва**
,,Zielone światło'' (radz.), ,,Sami na wyspie'' (jugosł.), 24—28.

**Чыжы**
,,W poszukiwaniu wczorajszej miłości'' (węgierski), ,,Gwiazdy w morzu'' (radz.), 24—28.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Zejście do piekła'' (polski), ,,Człowiek z karabinem'' (radz.), 24—28.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Pancernik Potiomkin'' (radz.), ,,Pluton 317'' (franc.), 24—28.

**Орля**
,,Najazd Czarnego księcia'' (radz.), ,,Ludzie w hotelu'' (USA), 24—28.

**Райск**
,,Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 24—28.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Powrót na ziemię'' (polski), ,,Porucznik jazdy'' (radz.), 23—26.

**Міхалова**
,,Ja twój syn'' (węgierski), 23—24. ,,Królowa stacji benzynowej'' (radziecki), 25—26. ,,Westerplatte'' (polski), 27—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Protegowany'' (polski), 23—24. ,,Zwariowana noc'' (polski), 25—26. ,,Katastrofa'' (polski), 27—28.

**Шудзялава**
,,Sabrina'' (USA), ,,Umrzeć w Madrycie'' (franc.), 24—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Bicz Boży'' (polski), ,,Gwiazdy w morzu'' (radz.), 24—28.

**Новы Двор**
,,Fifi piórko'' (franc.), ,,Teresa Desqueraux'' (franc.), 27—28.

**Ліпск**
,,Wojenka, wojenka'' (polski), ,,Nikt śmiać się nie będzie'' (czeski), 27—28.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7673

# ПАТРЭБНА ДАВЕДКА

Зайшоў да мяне стары дружбак Грыц Варэня.

— Прачытай, будзь ласкавы, вось гэтую штукенцыю і скажы, ці ўмею я пісаць гумарэскі.

— Ты так умееш гумарэскі, як я — іграць на віяланчэлі.

— Дык і я ж ім так тлумачыў. А яны сваё: напішы ім гумарэску для насценгазеты. Хоць гвалт крычы. То ці не мог бы ты пісьмова пацвердзіць, што я не ўмею гумарэсак пісаць?

— Чаму не магу!

Напісаў: «Гэтай даведкай сцвярджаю, што з грамадзяніна Варэні такі гумарыст, як з мяне віяланчэліст».

Назаўтра Грыцко зноў прыйшоў.

— Ты разумееш?

— Што? — пацікавіўся я.

— Які з цябе віяланчэліст?

— А тут няма чаго і разумець — ніколі віяланчэлі і ў руках не трымаў!

— Не верыць! Гэта, кажуць, трэба, каб хто-небудзь з аўтарытэтных віяланчэлістаў пісьмова пацвердзіў.

Я знайшоў выдатнага віяланчэліста, які асабістым подпісам засведчыў, што з мяне такі самы віяланчэліст, як з яго — скульптар.

— А што, з яго сапраўды дрэнны скульптар? — пацікавіўся праз два дні Грыцко.

— Ніякі! — катэгарычна запэўніў я.

— Не вераць! — уздыхнуў Варэня. — Кажуць, няхай дасць даведку пра гэта аўтарытэтны скульптар.

Патраціўшы некалькі дзён, я знайшоў нашага мясцовага, досыць вядомага скульптара, які ў пісьмовай форме рашуча запэўніў, што віяланчэліст цяміць у скульптуры роўна столькі, колькі ён, скульптар, у тэорыі Эйнштэйна.

Цяпер, думалі, ужо нібы ўсё ў парадку. Бо ўсім вядома, што ў тэорыі Эйнштэйна дасканала ніхто не разбіраецца.

Але праз колькі дзён Грыц Варэня прыйшоў вельмі засмучаны.

— Не вераць! Яны, кажуць, разумеюць, што Альберта Эйнштэйна ўжо няма сярод жывых, і ён сам, на жаль, ужо не зможа нічога пісьмова засведчыць. Але, кажуць, нехта з аўтарытэтных вучоных мусіць-такі напісаць, ці мае скульптар дачыненне да тэорыі адноснасці... І слухаць нічога не хочуць. Або, кажуць, кладзі на стол гумарэску, або даведку! Бо на словах, маўляў, усякага нагаварыць можна, а калі даведкаю засведчана, то гэта ўжо напэўна...

— Лягчэй, дальбог, гумарэску напісаць, чым гэтыя даведкі збіраць, — заўважыў я.

— Скажаш такое — лягчэй! А калі я не ўмею... — засумаваў Грыц.

— Дык гэта ж вельмі проста робіцца! Апішы, як за даведкамі бегалі — і гатова!

Грыц, уласна кажучы, і апісаў гэтую гісторыю. Толькі паставіць свой подпіс не адважыўся. Бо потым, кажа, зноў гумарэсак запатрабуюць, а яму некалі за даведкамі бегаць.

Таму я і змушаны выдаць гэтую рэч за сваю.

**Е. Крукавец**






— Дазвольце, старшыня, я за вас упаду.

### ЯК

— Як вам спадабалася марская паездка?

— О, цудоўна! Параход быў камфартабельны. І я нават не заўважыў бы, што мы ў моры, калі б увесь час не пакутаваў ад марской хваробы...

### САБЕ НА РУКУ

Прыйшла Яўдоха да суседкі і кажа:

— Кума! Дазволь мне засмажыць рыбу ў тваім алеі, а я потым табе дазволю зварыць колькі хочаш мяса ў маёй капусце.

### ПРА ШТО

— Пра што ты думаеш, дарагая?

— Ні пра што.

— Тыповая жаночая логіка! Нельга думаць «ні пра што»!

— Чаму нельга? Я думаю пра той падарунак, які ты паднёс мне на імяніны.

### ДОБРЫ

— Алесь, калі вы паспрабуеце мяне пацалаваць, я буду крычаць!

— Што вы, Лена, няўжо вы можаце падняць скандал на такой людной вуліцы?

— Ну, добра, тады пойдзем куды-небудзь у глухі завулак.

## ДУМЫ ЯССЕЙ і АПАЛОНІКА

**Каму сонца паказвае дарогу, той можа зайсці вельмі далёка.**

✲

**Калі ідыёт становіцца героем, тады людзі пачынаюць плакаць.**

✲

**Ад вялікага бляску можна аслепнуць.**

✲

**Чалавек, які лезе ўсё вышэй, павінен памятаць, што вернецца на зямлю.**

✲

**Паваленае дрэва перастае шумець.**

### НА ЦЭЛАЕ ЛЕТА

Аднойчы да Альжбеты зайшоў Макар і ўбачыў, што яна гоніць самагонку.

— Што ты робіш? — спытаў ён.

— Боршч вару.

А чаму ж у такім вялікім чыгуне?

— Каб на ўсё лета хапіла.

### ЗА ТРЭЦЯГА

Прыйшлі сваты да адной дзяўчыны. Сватаюць яе за суседа. А яна наадрэз:

— Не пайду за яго!

Што ні гаварылі, а яна сваё — не пайду, ды і ўсё.

— А чаму ж ты не пойдзеш? Якая прычына?

— Ды, бачыце, мне варажбітка сказала, што мой першы муж будзе п'яніца, другі — гультай. Дык я хачу адразу за трэцяга выйсці.

### СПАДЧЫНА

— Кажуць, стары Грыц памёр.

— Ага. Усё, што меў, пакінуў сваёй жонцы.

— А многа пакінуў?

— Пяцёра дзяцей.

### ГОДНАСЦЬ ЖОНАК

— Мая жонка заўсёды ведае, што яна робіць, — горда гаворыць Міхась.

— А мая ведае нават тое, — адказвае яго сябар Кастусь, — што робяць іншыя.

### ЦЯЖКІ ДЗЕНЬ

Бацька прыйшоў з работы, калі я купала нашу маленькую дачку.

— Ну, як справы, малышка? — спытаў ён.

— Добра ты правяла дзянёк?

— Не, — адказала яна, — я ж увесь дзень слухалася маці.



Справа ў тым, што я навічок...

### КОЖНАМУ — СВАЁ

**Казачка**

Падскочыла Лапата да Тапара, які працаваў у двары:

— Калун ты калун, як ты сячэш!

Ухмыльнуўся Тапор:

— А пакажы ж, любая, як трэба.

Размахнулася Лапата, дзюбанула ў калоду, ды і ўшчамілася. Толькі войкнула і ўсё. Нават паварухнуцца не можа.

— Вось, — кажа Тапор, — гэта табе навука, як лезці не ў сваю справу і вучыць таго, хто гэтую справу робіць.

**Я. Казлоўская**

### ТАК ЗРУЧНЕЙ

Маці вучыць сына:

— Ніколі за ядой не цягніся цераз увесь стол, калі табе што-небудзь трэба. Хіба ў цябе няма языка?

— Ёсць, — адказаў хлопчык. — Але рукі даўжэйшыя.



— Мой толькі што з рыбаў вярнуўся. Цяпер сядзіць адтайвае.

Словы: А. Русака — Музыка Г. Вагнера

## ЦІХІ ВЕЧАР

Ціхі вечар у сузор'і
Над сялом плыве,
Засвяціліся агнямі
Росы на траве.

Не сама к табе прыйшла я, —
Сэрца прывяло,
А сваўму я сэрцу веру, —
Шчасце тут знайшло.

Не пытайся аб каханні,
Бо не адкажу,
Толькі знаю, што адна я
Без цябе тужу.

Толькі знаю, што пазнала
Радасць я з табой,
Толькі знаю, што адзіны
Ты, любімы мой.

Заўтра мы насустрач сонцу
Выйдзем у палі,
Дзе красою веснавою
Нівы расцвілі.

А сягоння ясны месяц
Выплыў за сяло,
Не сама к табе прыйшла я, —
Сэрца прывяло.




## КУРЁЗЫ

### Мэбля над галавой

Такійская паліцыя ў барацьбе з п'янствам ужывае розныя сродкі. Тых, хто трапіў у працвярэзнік, чакае шок: стол, крэслы і ўся астатняя мэбля ў пакоі знаходзіцца над галавой — яна прымацавана да столі. Як толькі алкаголік прачнецца, ён адразу прыходзіць да думкі, што ад гарэлкі звар'яцеў.

### Не прыкідвайся, Макнамара!

Міністр абароны ЗША Макнамара пачаў кампанію па вярбоўцы рэкрутаў заклікам: «Уступайце ў парашутныя войскі: скакаць з парашутам бяспечней, чымсьці пераходзіць вуліцу з ажыўленым рухам!» У адказ ён атрымаў пісьмо ад аднаго юнака: «Я ахвотна паследаваў бы Вашаму заклiку, але вярбовачнае бюро знаходзіцца на другім баку вуліцы».

### Аракул надвор'я



Уюн за суткі перад дрэнным надвор'ем усплывае на паверхню вады. Таму некаторыя аматары ўгадваюць надвор'е, трымаючы гэтую рыбу дома ў пасудзіне з вадой. Рэагуе на перамену надвор'я і сом.



**Кожны асёл у намаляваным асле пазнае перш за ўсё сябе. Але не ў кожнага асла хапае адвагі сказаць пра гэта ўголас.**